Няхай жыве саюз рабочых і сялян

# Паляўнічы Беларусі

№ 2 ЛЮТЫ

Ўмесячная часопісь орган Беларускага саюзу прамысло-ва паляўнічае коопэрацыі і зьверагадоўлі. Год выд. — IV

193

| ПАДПІСНАЯ ПЛАТА: | |
|---|---|
| На 1 год | 2 р. |
| „ 6 м-цаў | 1 р. 20 к. |
| „ 3 м-цы | — 70 к. |

| АБВЕСТКІ: | |
|---|---|
| Старонка перад тэкстам | 150 р. |
| На апошн. стар. вокл. | 100 р. |
| Зваду тэксту | 70 р. |
| Аб прапажы сабак | 1 р. |
| Аб прадажы сабак | 3 р. |

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
*Менск, Савецкая, № 71.*
*Тэлефон—405.*

## ЗЬМЕСТ:



## СЕЛЬСАВЕТЫ, ТВАРАМ ДА КАЛГАСАЎ,

за хутчэйшае выкананьне задачы суцэльнай калектывізацы
за ліквідацыю кулацтва як клясы, за рашучае ўзмацнень
ўплыву батрацтва і беднаты ў саветах, за ўзмацненьне бядняцк
серадняцкага блёку ў барацьбе супроць капіталістычных эл
мэнтаў, за поўнае выкананьне плянаў пасеўнай кампаніі.

## НЯ МЕСЦА Ў САВЕТАХ ТЫМ, ХТО СУПРОЦЬ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ.

Выбаршчыкі, скарыстайце сваё права адклікаць такіх членаў савет

### ПЕРШЫ №
### „ПАЛЯЎНІЧАГА БЕЛАРУСІ"
### РАЗЫШОЎСЯ ПОЎНАСЬЦЮ.

*У далейшым трэба браць падпіску тольк з № 2, зьнізіўшы плату за 1-шы № на 20 к Падпішчыкі, якія ўжо падпісаліся на ўвес год і ня ўсьпелі сваечасова атрымаць перш нумар, атрымаюць адзін нумар часопіс за 1929 год.*

РЭДАКЦЫЯ.



# 12

Мінула дванаццаць год з таго часу, як Камуністычнай партыяй і Савецкім урадам была арганізавана Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія.

Для таго, каб перамагчы ворага, для таго, каб замацаваць заваёвы Кастрычніка, неабходна была такая армія, якая-б сапраўды зьявілася арміяй пролетарыяту. Такой і зьявілася наша непераможная Чырвоная армія. Яна перамагла таму, што ў яе рады ўліліся лепшыя сілы пролетарыяту і яго авангарду Камуністычнае партыі, яна перамагла таму, што яе камандырам, яе кіраўніком была створаная Леніным партыя бальшавікоў

Дванаццатую гадавіну Чырвонай арміі мы адзначаем у той час калі пролетарыят Саюзу ССР пад кіраўніцтвам сваёй партыі будуе соцыялістычную гаспадарку—ідзе шпаркім тэмпам да соцыялізму.

Стаючы на варце заваёў Кастрычніка, на варце соцыялістычнага будаўніцтва, на варце межаў Саюзу ССР—Чырвоная армія разам з гэтым сумесна з усім пролетарыятам краіны прымае практычны ўдзел у будаўніцтве.

Падрыхтсўваючы чырвонаармейца для будучых боек працы з капіталам для таго, каб даць адпор ворагам пролетарыяту, ворагам соцыялістычнага будаўніцтва, Чырвоная армія разам з гэтым рыхтуе будаўнікоў соцыялістычнай гаспадаркі—кіраўнікоў калгасаў, саўгасаў, трактарыстых і г. д.

Аграпаход Чырвонай арміі ў вясеньнюю пасяўную кампанію гэтага году, падрыхтоўка ста тысяч з каманднага складу і актывістых Чырвонай арміі ў бліжэйшы час для працы ў калгасах, зьяўляецца лепшым сьведкам удзелу Чырвонай арміі ў соцыялістычным будаўніцтве.

Ідэя Леніна аб соцыялістычным спаборніцтве, ударніцтве, што зараз разгарнуліся па ўсёй краіне ахапіла гіганты, фабрыкі, калгасы, саўгасы—знайшла свой адбітак у Чырвонай арміі. Чырвоная армія на гэтым важным вучастку працы заняла віднае месца.

— За лепшага байца, за лепшую баявую адзінку, за лепшую падрыхтоўку будаўнікоў соцыялістычнай вёскі, за лепшы ўдзел у вясеньняй пасяўной кампаніі—такія лёзунгі соцыялістычнага спаборніцтва ў Чырвонай арміі. І гэта ня толькі лёзунгі, але і практычная, упартая праца, якую праводзіць наша Чырвоная армія.

Мы самі зьяўляемся сьведкамі таго, як нядаўна А. Д.-У. А. на ўсходнім фронце ў бойках з ворагам, Ленінскім мэтадам соцспаборніцтва перамагла. Паасобныя байцы, аддзяленьні, разьдзелы, роты, батальёны і палкі заключалі паміж сабою ўмовы на лепшыя пападаньні ў наймітых капіталістых, на лепшае выкананьне баявой задачы пры найменшай страце сваіх байцоў, на зьмяншэньне сабекошту бойкі і г. д. і г. д.

Ня так даўно на Чырвонаармейскай конфэрэнцыі N-скага Кронштатдзкага палку Беларускай вайсковай акругі полк абвясьціў сябе ўдарным. У сваей адозьве, пасланай Рэўваенсавету БВА, байцы палку заявілі:

— Ня гледзячы на цяжкасьці ў выкананьні гэтай адказнай задачы, мы завяраем Рэўваенсавет акругі, што, шырока разгарнуўшы соцыялістычнае спаборніцтва, усе ўзятыя на сябе абавязкі выканаем.

Мы самі зьяўляемся сьведкамі таго, як дэмабілізаваныя чырвонаармейцы ўпарта працуюць над перабудовай вёскі. На балотах Беларусі, на мясцох, дзе ніколі не пахалася і ня сеялася, зараз вырасьлі паказальныя чырвонаармейскія камуны.

**У адказ на ваенныя пагрозы імпэрыялістых—узмоцнім соцыялістычнае наступленьне, пабудуем новыя фабрыкі, заводы і электрастанцыі, арганізуем новыя калгасы і саўгасы, уздымем ураджайнасьць палёў, павядзем рашучую барацьбу з кулаком, узмоцнім Чырвоную армію.**

**Чырвоная армія—пэўны вартаўнік будуючагася соцыялізму.**

Бачачы нашу моц, нашы перамогі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, нашу палітыку да клясавага ворага—кулака, а разам з гэтым рост эканамічнага крызісу ў капіталістычных краінах і рост рэвалюцыйнага руху рабочае клясы ў іх, імпэрыялістыя і соцыял-здраднікі ўсіх колераў, усімі мерамі імкнуцца перашкодзіць нашаму будаўніцтву, імкнуцца сарваць нашу пяцігодку.

Аб гэтым мы павінны заўсёды памятаваць.

Адзначаючы 12-ю гадавіну існаваньня пераможнай Чырвонай арміі, мы павінны яшчэ цясьней згуртавацца навакол яе, абкружыць яе і сем'і чырвонаармейцаў клапотамі, а разам з гэтым рыхтавацца кожнаму з нас да абароны.

У падрыхтоўцы нашага тылу да абароны паляўнічая арганізацыя можа і павінна шмат чаго зрабіць.

Мы ўжо амаль тры гады зьбіраем сродкі на пабудову самалёта „Паляўнічы Беларусі" для перадачы яго Чырвонай арміі. Самалёт—гэта, бязумоўна, лепшы падарунак для Чырвонай арміі, лепшае мерапрыемства для ўмацненьня абароназдольнасьці нашае краіны, але-ж кепска тое, што мы ўсё яшчэ зьбіраем гэтыя сродкі на працягу такога доўгага часу.

Адзначаючы 12-ю гадавіну Чырвонае арміі, кожны з нас, кожная ячэйка, райбюро, акруговае таварыства павінны паставіць перад сабой практычную задачу—як мага хутчэй сабраць сродкі на пабудову самалёту. Шляхам індывідуальных і калектыўных ахвяраваньняў, калектыўных аблаў на карысьць самалёту, мы павінны дабіцца, каб самалёт „Паляўнічы Беларусі" быў пабудаваны ў самы бліжэйшы час.

У галіне падрыхтоўкі самых сябе і працоўнага насельніцтва да абароны мы павінны больш чаго зрабіць, чым да гэтага часу. Сэзон паляваньня канчаецца, таму неабходна зараз-жа распачаць вучэбную стральбу па талерачках і з дробна калібэрных стрэльбаў, рыхтуючы лепшых снайпэраў, прыцягваючы да гэтага працоўнае насельніцтва і не паляўнічых, асабліва моладзь.

Возьмемся за практычны ўдзел падрыхтоўкі тылу да абароны. За 100% уцягненьне паляўнічых у арганізацыю Асоавіяхіму і за актыўны ўдзел у яе рабоце.

Няхай жыве Чырвоная армія—узброены атрад сусьветнай рэволюцыі!

Няхай жыве Камуністычная партыя бальшавікоў!

# 8 ТЫСЯЧ КАЛГАСЬНІКАЎ дае Беларуская Вайсковая Акруга вёсцы

Паміж Наркамземам БССР з аднаго боку і Палітуправай Беларускай Вайсковай акругі—з другога, заключаны дагавор па падрыхтоўцы спэцыялістых-калгасьнікаў.

Згодна гэтага дагавору, Палітуправа Беларускай Вайсковай Акругі абавязуецца падрыхтаваць у часьцях акругі за час з 15 студзеня да 1 лістапада 1930 году 8 тысяч чалавек калгаснага актыву з ліку чырвонаармейцаў і малодшага начскладу, што звальняюцца ў доўгатэрміновы водпуск, павінна быць падрыхтавана.

Арганізатараў-калгасьнікаў (старшынь і членаў праўленьняў саветаў, старшынь і членаў рэвізійных камісій і г. д.)—1 тысяча. З загадчыкаў гаспадаркамі і рахункаводаў—700. Жывёлаводаў (па буйнай рагатай жывёле)—1 тысяча. Кавалёў, якія ўмеюць рамантаваць простыя сельска-гаспадарчыя машыны—700. Тэхнікаў па насенных культурах—тысяча. Трактарыстых—1.350. Шофэраў — 500. Рабочых па рамонту складанага сельска-гаспадарчага інвэнтару—300. Майстраў па бэкону—250. Дзесятнікаў гідратэхнічных работ—500. Электра-манцёраў—250. Тэхнікаў па ільну і канаплі—350.

Наркамзем БССР абавязаўся адпусьціць палітуправе на гэту работу 138 тыс. Восемдзесят проц. падрыхтоўваемых курсантаў падлягаюць разьмеркаваньню ў раёнах БССР. Звальняемыя бяруцца на вучот Наркамземам БССР і разьмяркоўваюцца, згодна іх жаданьню, па раёнах у калектыўныя гаспадаркі.




* * *

Калі растручаны пачуцьці
І буры сьпеюць у цішыні,
Ідуць зруйнованым бяспуцьцем
І паляць ўперадзе агні,
І гэтай праўды чалавека—
Быць чалавекам, не рабом
Шукалі людзі век за векам,
У ноч ахвяруючы гарбом.

Ішлі, ішлі ў тумане,
Закуты ў кайданы.
Расьлі сьляды—курганы
Крывавай старыны.

Калісь была тут гільятына,
А ўчора створан дынаміт,
На страх рабочых, селяніна.
І пан, падпанак і найміт,
Усе ўзьнімалі дзіка рукі,
Як іх ўзьнімаюць ў нашы дні
У краінах барбараў, паны,
Калі вядуць на сьмерць, на мукі.

Прагрэсам і культурай
Там лічуць Лінчаў суд,
Але ўжо сьпеюць буры—
Устае працоўны люд.

Вайны ня хочам мы сягоньня,
Супроць крывавых боек мы.
Калі-ж ў агні глухіх агоній
З краін і рабства і турмы
На нас узьніме вораг лапу
Мы наш савецкі горды штык
Крывёй паноў прымусім капаць,
Бо кожны з нас тут бальшавік!

Тады ў агні сусьвету,
За новай песьні дзень
Мы Ленінскую мэту
У край змроку панясем.

# Разаружым — кулака!

## Сельячэйкі паляўнічых—на барацьбу з клясавым ворагам.

## Паляўнічы! Аберагай маемасьць калгасу.



ПРАВІЛЬНАЯ лінія Камуністычнай партыі, што ўзята на шпаркі тэмп калектывізацыі сельскай гаспадаркі, на канчатковае выкарчоўваньне капіталістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы прывяла да подлінна-масавага руху бядняцка-батрацкіх, а за імі і серадняцкіх мас сялянства ў калгасы. Гэта яўляе сабой вялізарнае давер'е Камуністычнай партыі з боку гэтых пластоў насельніцтва і падводзіць грунтоўную гаспадарчую базу для пераходу ў палітыцы партыі на аснове буйнай калектыўнай гаспадаркі ў раёнах суцэльнай калектывізацыі ад палітыкі абмежаваньня эксплёататарскіх тэндэнцый кулацтва да палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы.

Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі і арганічна зьвязаная з ёю політыка ліквідацыі кулацтва, як клясы, зьнішчэньне прыватнай уласнасьці, перабудаваньне дробнай сялянскай гаспадаркі на соцыялістычных пачатках праходзіць і будзе праходзіць на далей ва ўмовах жорсткай і самай бязьлітаснай клясавай барацьбы.

Кулак і іншы варожы элемэнт у прадсьмертнай агоніі дапасоўваюць і будуць дапасоўваць усе сродкі і формы барацьбы супроць вясковых актывістых, супроць калгасаў; забойства, падпалы маемасьці калгасаў і інш. будуць сустракацца ўсё часьцей і часьцей.

Ужо і цяпер мы ня рэдка сустракаемся з фактамі забойства асобных вясковых актывістых, падпаламі калгасаў і саўгасаў. Кулацтва *пускае* ў ход ня толькі абрэзы і дуб'ё, але і *паляўнічую стрэльбу*. Вось факты, што ярка сьведчаць аб гэтым. *У Менскім прыгародным с.-с. адзін паляўнічы з вёскі Тучынка (білет № 3665 за 1928 г.) адкрыў стральбу па рабочых брыгадзірах. На хутарах Бараноўшчына другі паляўнічы—кулак Герасімовіч страляў таксама па едучых брыгадзірах і калгасьніках*, гаворачы, што „ежалі і заб'ю, дык сабакі ня жалка". Можна прывесьці яшчэ цэлы шэраг выпадкаў, якія гавораць аб тым, што кулакі пачынаюць паляваць на вясковых актывістых і калгасьнікаў.

Як відаць праведзеныя Цэнтральным праўленьнем паляўнічых мерапрыемствы па адабраньню паляўнічых стрэльбаў у кулакоў і іншых варожых элемэнтаў ня могуць нас задаволіць таму, што вышэй прыведзеныя факты з усёй яскравасьцю сьведчаць аб тым, што ў некаторай часьці кулакоў і падкулачнікаў засталося паляўнічае аружжа.

Партыя і органы савецкай улады ня могуць дапусьціць такога становішча, каб наш клясавы вораг быў узброены хаця-б і паляўнічай стрэльбай, таму трэба неадкладна разгарнуць рашучую работу за выяўленьне аружжа, якое маецца ў кулакоў і падкулачнікаў. Гэтую работу, як і наогул усю барацьбу з кулацтвам, пасьпяхова можна правесьці толькі тады, калі навакол ажыцьцяўленьня дырэктыў партыі па калектывізацыі сельскай гаспадаркі, па барацьбе з кулацтвам, па ліквідацыі яго як клясы будзе згуртавана бядняцка-батрацкае ядро; штодзенна будзе ўзмацняцца блёк беднаты з серадняком.

Таму паляўнічыя організацыі павінны неадкладна разгарнуць самую шырокую работу па сплачэньню беднаты навакол кіруючых органаў, выкінуць адтуль (з кіруючых органаў) усіх кулакоў і падкулачнікаў, выявіць праз паляўнічых—батракоў і беднякоў, кулакоў і падкулачнікаў, маючых стрэльбы і адабраць іх, перадаць іх на льготных умовах калгасьнікам, батракам і беднякам.

Да гэтага часу паляўнічыя прымалі вельмі слабы ўдзел у справе папулярызацыі і ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, а работа па рэконструкцыі сельскай гаспадаркі павінна была і ў паляўнічай коопэрацыі, як ў шэрагу інш., заняць цэнтральнае месца.

Выходзячы з гэтага мясцовым організацыям паляўнічай коопэрацыі трэба разгарнуць самую шырокую работу па згрупаваньню навакол сябе беднаты, па растлумачаньню батрацка-бядняцкім і серадняцкім масам вёскі перавагі буйнай калектыўнай гаспадаркі над дробнай індывідуальнай, дабіваючыся таго, каб вясковыя паляўнічыя былі ініцыятарамі ў справе калектывізацыі і правядзеньня працэсу раскулачваньня.

Маючы ў шэрагах паляўнічай коопэрацыі значную колькасьць рабочых, а таксама адказных працаўнікоў камуністых і камсамольцаў, трэба разгарнуць работу ў напрамку прыцягненьня іх да практычнага ўдзелу ў калектывізацыі сельскай гаспадаркі і дапамогі калгасам у наладжаньні калектыўнай гаспадаркі, працы і аплаты працы ў ёй і г. д.

Вясеньняя пасяўная кампанія павінна быць выходным пунктам калектывізацыі сельскай гаспадаркі, павінна быць праведзена такім чынам, каб максымальна было забясьпечана выкананьне процантаў пашырэньня плошчы засеву і ўзьняцьця ўраджайнасьці. Гэтага можна дабіцца пры ўмове хуткага выяўленьня прарываў у падрыхтоўцы да вясеньняй пасеўнай кампаніі і хуткага запаўненьня іх, а таму паляўнічыя, маючыя непасрэдную сувязь з вёскай, павінны максымальна дапамагчы кіруючым арганізацыям, праводзячым вясеньні сеў у сэнсе сваячасовага інфармаваньня аб ходзе вясеньняй пасяўной кампаніі.

У шалёнай барацьбе супроць калгасаў, кулак будзе прыбягаць да зьнішчэньня іх маемасьці шляхам падпалаў, порчы інвэнтара, забойстваў і атручэньня жывёлы і шэрагаў іншых агідных спраў, таму ўжо зараз з усёй вастротай павінна быць пастаўлена пытаньне аб ахове маемасьці калгасьнікаў. У справе аховы калгаснай маемасьці галоўнейшую ролю павінны адыграць паляўнічыя арганізацыі. Паляўнічыя ячэйкі павінны на *сябе ўзяць* справу аховы маемасьці калгасаў і гэтым самым папярэдзіць злачынствы кулакоў. Асноўным лёзунгам удзелу ў грамадзкай рабоце паляўнічых павінен быць—*Паляўнічы, аберагай маемасьць калгасьнікаў ад ворагаў калгасаў!*

**П. Тамашэўскі.**



# Паляўнічая гаспадарка і зьверагадоўля



*Артыкул І. Хадаронка „Паляўнічая каапэрацыя ў сыстэме калгасаў" зьяўляецца сваячасовым. Мы лічым, што паляўнічая маса выкажа сваю думку праз часопіс „П. Б." аб тым як, лепей рэарганізаваць паляўнічую каапэрацыю.*

**Рэдакцыя.**

## Паляўнічая каапэрацыя ў сыстэме калгасаў.

Перабудова вёскі на асновах калектывізацыі с.г. вымагае і адпаведнай перабудовы і форм каапэрацыйнае працы. Бясспрэчна, што пры суцэльнай калектывізацыі самастойнае існаваньне паляўнічай каапэрацыі, якая на 90 проц. складаецца з сялян, якія ўвойдуць у калгасы, справа непатрэбная.

Гаварыць у час шпаркага тэмпу калектывізацыі пра прыпіску паляўнічых угодзьдзяў да паасобных калектываў паляўнічых—гэта значыцца не разумець значэньня агульнай калектывізацыі ў сучасны момант, яе задач і пэрспэктыў у будучым.

Мне здаецца, што ў гэты час пытаньне можа стаяць толькі ў плоскасьці ўвязкі працы па паляўнічай гаспадарцы з агульнай працай па калектывізацыі. Паляўнічая каапэрацыя павінна зьліцца з калгасамі і іх аб'яднаньнямі і складаць у апошніх асобныя сэкцыі паляўнічай гаспадаркі. У абавязкі гэтых сэкцый будзе ўваходзіць вядзеньне паляўнічай гаспадаркі на тэрыторыі адпаведнага адміністрацыйнага падзяленьня. Праца такіх ячэек павінна ўваходзіць у агульныя пляны калгасаў і іх аб'яднаньняў. Кіраўніцтва працай нізавых ячэек павінна быць пабудавана таксама, як і кіраўніцтва працай калгасаў па іншых галінах, гэта значыць у рэспубліканскім маштабе—праз паляўнічую сэкцыю пры Калгасцэнтры, у акруговым—пры акруговым калгассаюзе, у раённым—пры раённым аб'яднаньні калгасаў. У тым выпадку, калі ў межах сельсавету будзе існаваць некалькі паасобных калгасаў, могуць утварацца адпаведныя ячэйкі пры аб'яднаньнях (куставых) гэтых апошніх калгасаў.

Пераход паляўнічай каапэрацыі на такія формы існаваньня адчыняе перад ёй тыя магчымасьці, атрымаць якія да гэтага часу яна была бясьсільна. Папершае, можна будзе гаварыць пра хуткае зьнішчэньне браканьерства, пра сапраўды плянавую барацьбу з драпежнікамі сельскай і паляўнічай гаспадаркі і па-другое—пра плянавую адбудову паляўнічай гаспадаркі і плянавую яе эксплёатацыю, а галоўнае можна будзе канчаткова і на карысьць самой паляўнічай гаспадаркі вырашыць пытаньне, хто павінен непасрэдна займацца справамі гэтай гаспадаркі—НКЗем ці паляўнічая сэкцыя Калгасцэнтру і ў якой частцы павінен застацца нагляд за органамі НКЗ, бо існаваўшае да гэтага становішча не стварала тых умоў, якія неабходны для пасьпяховага вядзеньня гэтай гаспадаркі, асабліва пры тым, што апрача НКЗ і „Белкохотсоюза" адбудова паляўнічай гаспадаркі цяпер залежыць і ад Наркамгандлю, які ўзяў у свае рукі галоўнае аружжа—права і сродкі на фінансаваньне па адбудове паляўнічай гаспадаркі. Паказаная шматлікасьць нянек над паляўнічай гаспадаркай дала, покуль што, толькі той вынік, што першы год пяцігодкі адбудовы паляўнічай гаспадаркі сарван на ўсе 100 процантаў і некалькі тысяч грошай патрачаны бязрэзультатна.

Толькі ўвязка працы паляўнічай каапэрацыі з агульнай калектывізацыяй можа паставіць адбудову паляўнічай гаспадаркі і плянавае карыстаньне апошняй на цьвёрды грунт; толькі агульная калектывізацыя можа скласьці неабходныя ўмовы для плянавага разьвіцьця гэтае гаспадаркі.

Нарэшце, паколькі гарадзкімі паляўнічымі спрадвідлова можа быць пастаўлена пытаньне, дзе яны будуць паляваць, калі ўсе ўгодзьдзі будуць пад ведамам адпаведных ячэек калгасаў, мушу адзначыць, што паляўнічыя калгасьнікі ня будуць перашкаджаць рабочым і служачым займацца паляваньнем на такіх угодзьдзях, але толькі ў паляваньні гарадзкіх паляўнічых трэба будзе ўстанавіць які-небудзь парадак, бо бяз гэтага ў бліжэйшых да гарадоў угодзьдзях будзе і ў далейшым усё выбівацца да шчэнту, як і ў гэты час. Апрача таго, гарадзкім паляўнічым трэба паклапаціцца і пра тое, каб у прылягаючых да гарадоў угодзьдзях паляўнічая гаспадарка вялася ня толькі ў напрамку зьнішчэньня ўсяго жывога, але і ў напрамку памнажэньня хоць такіх аб'ектаў паляваньня, як заяц і шэрая курапатка.

**І. Хадаронак.**

## Адказ т. Хадаронку.

Шпаркі тэмп соцыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі ва ўсю шырыню ставіць перад намі пытаньне аб перабудове паляўнічае каапэрацыі. Вялікая колькасьць паступіўшых у рэдакцыю матар'ялаў сьведчыць аб зацікаўленасьці паляўнічых лёсам сваёй каапэрацыі.

З усіх матар'ялаў асабліва цікавы артыкул т. Хадаронка, у якім ён гаворыць аб каранной зьмене ўсей арганізацыйнай сыстэмы паляўнічае гаспадаркі. Тав. Хадаронак піша, што спэцыяльнай паляўнічай каапэрацыі пры сплашной калектывізацыі ня будзе: яна павінна ўліцца ў калгас.

Па думцы Хадаронка ў кожным калгасе будзе арганізавана сэкцыя, якая будзе кіраваць і весьці паляўнічую гаспадарку.

Ці не памыляецца тут т. Хадаронак.

Уперад за ўсё кожны калгас будзе будавацца з ухілам на якую-небудзь галіну сельскае гаспадаркі:

зернавую, ільняную, малочную, па разьвядзеньню сьвіней, авечак і г. д. Могуць быць калгасы і па разьвядзеньню трусоў і іншых зьвяроў. Апроч таго у кожным калгасе і саўгасе павінны гадавацца, як дапаможная частка гаспадаркі, усякія зьверы, асабліва трусы. Хто-ж будзе кіраваць гэтай зьверагадоўляй?

Паляўнічую гаспадарку ў натуральных умовах ніяк нельга будзе абмежаваць адным калгасам, таму яна павінна будзе весьціся буйным аб'яднаньнем калгасаў.

Тав. Хадаронак зусім дакладна паказвае арганізацыйную структуру паляўнічае гаспадаркі зьверху да раёну—пры адпаведных цэнтрах калгасаў арганізуюцца сэкцыі паляўнічае гаспадаркі, а вось арганізацыйную структуру ніжэй раёну, у сельсавеце, альбо ў калгасе, т. Хадаронак, на жаль, апісаў зусім ня ясна. Таксама ня ясна, як будуць арганізаваны паляўнічыя гораду і саўгаса.

Я лічу, што паляўнічая каапэрацыя павінна застацца, і мала таго, павінна арганізавацца акцыянэрнае т-ва, куду ўвойдуць Наркамгандаль, Наркамзем, Саюз паляўнічых, Калгасцэнтр, малочна і жывёлагадоўчы саюз, спажывецкая каапэрацыя, Белшвэйтрэст, Саматужна-прамысловы саюз і інш.

Паляўнічая коопэрацыя павінна быць пабудавана так: у гарадох, саўгасах і калгасах, альбо ў кустах (калі ў калгасах будзе мала паляўнічых) арганізоўваюцца прамыслова каапэрацыйныя ячэйкі паляўнічых і зьвераводаў. Гэтыя ячэйкі ў раённым маштабе аб'яднаюцца ў раённыя таварыствы, а апошнія ў акруговыя і потым у рэспубліканскі цэнтр.

Пры ўмове эканамічнага замацаваньня раённых таварыстваў іх можна аб'яднаць непасрэдна ў „Белкохотсаюз“ без арганізацыі акруговых таварыстваў.

Ячэйкі і раённыя таварыствы арганізоўваюць арцелі па прамысловаму зьвераводзтву. Бюро ячэйкі павінна трымаць шчыльную сувязь з кіраўніцтвам калгасаў.

Раённыя таварыствы нашай каапэрацыі вядуць усю работу па паляўнічай гаспадарцы, прамысловаму зьвераводзтву, пушных загатоўках, задавальненьню паляўнічых боепрыладамі, сабакагадоўлі, стралковаму спорту, культрабоце і інш., як зараз гэта робіць акруговае таварыства.

Цяпер па пытаньню аб прыпісцы паляўнічых угодзьдзяў да ячэек і таварыстваў. Мне здаецца, што гэтага рабіць ня трэба. Вядзеньне паляўнічае гаспадаркі ў натуральных умовах для раёну, і тым больш для калгаса, будзе не па сілах, і таму яна павінна весьціся „Белкохотсоюзом“ праз заказьнікі, культурныя гаспадаркі. Ячэйкі і таварыствы павінны актыўна дапамагаць у гэтай справе „Белкохотсоюзу“ і галоўную сваю ўвагу ўдзяляць разьвядзеньню трусоў.

Я лічу, што ў нас, на Беларусі, дзе паляваньне зьяўляецца чыста аматарскім, правядзеньне прыпіскі толькі пазбавіць магчымасьці гарадзкіх паляўнічых паляваць.

Заява тав. Хадаронка аб тым, што калгасьнікі ня будуць „перашкаджаць рабочым і служачым паляваць на іх угодзьдзях“,—наіўная. А што, калі той ці іншы калгас пастановіць не дапускаць, у мэтах падвышэньня прыбытковасьці, паляваць на сваіх угодзьдзях ня членам калгасаў. Пакладацца—на „дазваляць ці не дазваляць“—нельга, трэба ўстанавіць дакладныя правілы і дамагацца іх выкананьня, што можна зрабіць толькі дакладнай арганізацыйнай формай.

**С.**

## За прыпіску паляўнічых угодзьдзяў.

У № 11—12 „Паляўнічы Беларусі“ надрукован артыкул т. Дзярыба аб тым, што нам трэба ўзяць прыклад з РСФСР і ўвесьці прыпіску паляўнічых угодзьдзяў. Хоць я і гарадзкі паляўнічы—рабочы, але лічу, што гэта мерапрыемства дапаможа нам лепш арганізаваць паляўнічую гаспадарку, больш разьвесьці дзічы, лепш назіраць за ёй; ахоўваць. Мы будзем клапаціцца аб сваім угодзьдзі, будзем рэгуляваць адстрэл дзічы і зьвера.

Я скажу аб гомельскіх паляўнічых: толькі пачынаецца паляваньне, зараз-жа ўсё, што ёсьць у гэтым месцы, выбіваецца і кожны імкнецца забіць як мага больш. Б'юць па 20 штук качак, самі з сям'ёй могуць спажыць 6—7, а апошнія ў лепшым выпадку аддаюцца знаёмым, а то проста выкідваюцца, бо папсаваліся. Прагнасьці ў кожнага—бясконца. А каля Гомеля ўгодзьдзі ёсьць добрыя! Узяць хоць-бы „Вялікае балота“ ці „Плеценскія балоты“—тут можна добра арганізаваць паляўнічую гаспадарку.

Я стаўлю гэтае пытаньне перад Гомельскім акруговым таварыствам, а то мы „ўдарыліся“ ў гандаль, а галоўная работа закінута.

„Белкохотсоюз“ павінен абмеркаваць гэта пытаньне, а мы, паляўнічыя, хутка правесьці ў жыцьцё, інакай на паляваньне іці хутка будзе незачым.

**Е. І. Ромбаеў.**

## Скрещивание приморского оленя с сибирским маралом.

В государственном зверопитомнике в местности Б. Коты, на озере Байкале, начаты чрезвычайно интересные опыты скрещивания двух разных видов оленей—приморского пятнистого и сибирского марала.

Приморский пятнистый олень—небольшого роста, плохо выносит континентальный климат западной Сибири, за то его рога—панты стоят на заграничном рынке дороже пантов марала в четыре раза.

Ученый руководитель питомника проф. Дорогостайский считает, что опыт удается. Получится новый вид оленя с ценными пантами и выносливый.

Возможно, что новый вид оленя будет создан путем искусственного оплодотворения самки—маралухи. Сейчас Сибгосторг и Пушторг прислали питомнику трех самок марала, в пути находятся еще несколько. В питомнике уже второй год акклиматизируются 11 экземпляров пятнистого оленя.

В случае удачного исхода опытов проф. Дорогостайского первый мараловодческий совхоз Сибторга (на Алтае), уже насчитывающий тысячу голов, широко развернет работы по выводу нового оленя. Это может произвести революцию в мараловодстве.

# Гігіена ў лісіных гадавальніках.

*Нават у лепшых гадавальніках Паўночнай Амэрыкі і Заходняй Эўропы часты выпадкі хвароб пушных зьвяроў і пагібелі іх. Зьяўленьне эпізоотый часта прыводзіць да гібелі значнай часткі племяннога матар'ялу і выклікае вялікія страты, падлічаемыя ў дзесяткі тысяч рублёў. Яшчэ апасьлівей становішча пачынаючага зьвераавода і звычайна кожнаму зьвераводу практыку прыдзецца весьці барацьбу з хваробамі зьвяроў у гадавальніку. Лячэньне зьвяроў у гадавальніку, аднак, зьвязана з вялікімі цяжкасьцямі і таму меры папярэджаньня маюць важную ролю. Гэты артыкул амэрыканскага біолёга Карла Гансона аб гігіене на лісіных гадавальніках дае цэлы шэраг практычных вельмі важных паказаньняў і прыводзіцца ніжэй у перакладзе. Паказаны артыкул зьявіўся ў асобным выданьні Дэпартамэнту земляробства ў кастрычніку—1929 года і прызначан для распаўсюджаньня сярод зьвераводаў.*

У лісіных гадавальніках належыць утвараць усе неабходныя ўмовы для здароў'я лісіц, паводле патрабаваньняў гігіены, пры чым большая ўвага павінна быць накіравана не на тое, каб лячыць жывёлін, а на тое, каб папярэдзіць іх хваробу.

Папярэджаньне хвароб лісіц мае вялікае значэньне ня толькі таму, што шмат якія хваробы могуць быць папярэджаны, але і таму, што лячэньне лісіц часта бывае лепш пасьпяховым, чым іншых хатніх жывёлін. Нярэдка спробы лячыць лісіц ня маюць пасьпеху таму, што часта ў лісіц цяжка заўважыць сымптомы хваробы, пакуль становішча не становіцца сур'ёзным. Скрытныя сымптомы часта не даюць магчымасьці паставіць сваячасова правільны дыагноз, без якога разумнае лячэньне немагчыма, значыць, лісаводы павінны заўсёды памятаць, што лепш імкнуцца папярэдзіць хваробу, чым лячыць яе.

Якасьць меха залежыць упаўне ад клімату. Прахладны або халодны клімат з ня лішнімі дажджавымі асадкамі, асабліва вясной, будзе садзейнічаць вырошчваньню меха найлепшае якасьці. Дастаткова глыбокі сьнег на працягу ўсёй зімы шмат дапаможа весьці барацьбу з звычайнымі паразытамі і зьнішчыць іх. Вельмі цёплае лета ня шкодзіць, калі за ім сьледуе студзёны пэрыяд, на працягу якога лісіцы могуць добра выліняць.

Сьвет, сонца і цень неабходны для здароў'я жывёлы. Кожная жывёліна любіць ляжаць у цяньку ў вельмі цёплую пагоду, ухіляючыся ад сільных праменьняў сонца. З другога боку сонца—найлепшы натуральны дызінфэкуючы сродак для ўтрыманьня клетак, домікаў і глебы ў добрых санітарных умовах.

Лісіц можна разводзіць на ўсякай глебе, абы толькі на ёй быў добры дранаж і было-б дастаткова цені. Лісятнікі будаваліся на ўсякіх глебах, пачынаючы з пясчанай і да глiністай, з камнямі і шчэбнем або бяз іх. Кожны тып такой глебы, калі толькі зьверху яна мяккая (ня грубая), прыгодзен для лісінага гадавальніка. Зямля, на якой павінны быць адбудаваны клеткі, домікі, павінна мець добры дранаж, бо кепска дранаваная глеба садзейнічае разьвіцьцю бактэрый ды паразытаў. Паразытныя і бактэрыяльныя хваробы звычайна распаўсюджваюцца праз паверхнастную ваду, якая ўсмоктваецца з адной клеткі ў другую; гэтага можна мінаваць, выкапваючы дранажныя канаўкі навокал кожнай клеткі, і накладваючы дастаткова зямлі ў кожную клетку і, такім чынам, падымаючы глебу пад клеткай значна вышэй акружаючай зямлі. Пры паднятай глебе клеткі будуць самі ачышчацца хутчэй, чым дажджом ці таючым сьнегам.

Для памяншэньня магчымасьці іраспаўсюджваньня хвароб, клеткі павінны быць пастаўлены прыблізна на адлегласьці 3 мэтраў і больш адна каля аднэй. Лісятнікі, дзе маецца 25—50 клетак, значна надзейней, чым тыя, якія маюць 100 і больш клетак на роўным па разьмеры вучастку зямлі, таму што пры меншай лічбе клетак зьмяншаюцца шансы на заражэньне і ў іх значна лягчэй весьці барацьбу з эпізоотыямі. Параўнаўча буйныя клеткі пажаданы, бо ў маленькіх клетках лісіцам мала месца для руху і глеба ў іх хутчэй заражаецца. Нельга дапускаць, каб бруд доўга заставаўся ў клетках, яго трэба як мага хутчэй і часьцей зьбіраць і паліць. Кал вельмі небясьпечны, бо часта зьмячшае ў сябе яйкі глістоў і бактэрыі розных хвароб і яго таксама трэба ўбіраць штодзенна, уносіць як мага далей і паліць.

Каб клеткі ня былі крыніцай паразытных інфэкцыйных хвароб, іх трэба так адбудаваць, каб можна было лёгка зьняць верхні пласт глебы і замяніць яго другім, сьвежым. Раюць мяняць такім чынам зямлю па крайняй меры адзін раз у год у клетках, прызначаных для вываду лісят. Калі клеткі невялікія і разборныя, то іх лёгка чысьціць і пераносіць на другое месца, але, калі яны не раз орныя і стаяць на драўляным ці бэтонным месцы, то іх трэба часьцей ачышчаць вадой з гумавай кішкі.

Для палягчэньня чысткі і дэзынфэкцыі лепш зьмяшчаць домікі-будкі па-за клеткамі. Домікі павінны быць адбудованы зручна і сьцены іх належыць добра ізаляваць спэцыяльнай пракладкай, пакладзенай між сьценкамі, каб лісяняты не прастуджваліся ў іх. Домікі і гнездавыя скрынкі адбудоўваюцца лепш так, каб было лёгка іх разьбіраць, як належыць быць чысьціць, дэзынфэкаваць і праветрываць ня менш, чым адзін раз у месяц.

Часта ў лісятніках зьяўляліся павальныя хваробы ад нядбайнага харчаваньня лісіц і папсутых харчоў. Атручаньне харчамі было прычынай пагібелі як дарослых, так і маладых лісіц. Каб мінаваць гэтага, трэба даваць толькі самыя сьвежыя і здаровыя харчы і дапасоўваць гігіенічныя мэтады яго прыгатаваньня і раздаваньня жывёлам.

Пасуда для кармленьня і паеньня павінна быць заўсёды чыстай, вада сьвежай і трохі студзёнай. Пасьля кожнага кармленьня ўсю пасуду трэба дакладна вымыць, а пасьля прапяціць або абдаць парам у зачыненым чане.

Кармленьне не павінна быць простою мэханічнаю дачай карму лісіцам, а ўважлівай акуратнай работай, якая павінна прадугледжваць патрабаваньні кожнай жывелы ў паасобку. У жарыню належыць карміць лісіц слабей, чым у стужу. Сьвежую ваду трэба даваць ім адзін раз у дзень у той час, калі вада яшчэ не замёрзла, а ў вельмі цёплыя дні ўлетку, два ці тры разы ў дзень; для кармленьня лісіц адпаведным чынам з боку лісавода патрабуецца вопыт, уменьне і сталае назіраньне за лісіцамі.

Заразныя хваробы зьяўляюцца ад мікробаў, якія выклікаюць хворасьць, абы толькі праніклі да слабага арганізму. Хваробы хутка распаўсюджваюцца, але звычайна цяжка паддаюцца лячэньню, ад чаго ня мала гіне лісіц. Нават, калі жывёліна будзе і вылечана, то ўсё-ж яна звычайна надоўга застаецца, а то і на заўсёды, у кепскім становішчы.

У кожным лісятніку неабходна пабудаваць некалькі асобных каранцінных клетак, якія павінны быць на адлегласьці ня менш 5 мэтраў адна ад адной і на некалькі дзесяткаў мэтраў ад галоўнага лісятніка і ад таго месца, дзе кормяць лісіц. Заўсёды трэба мець дастатковую лічбу такіх клетак для зьмяшчэньня ў іх ад 10 да 20 процантаў агульнага ліку лісіц.

Прыбываючыя ў гадавальнік лісіцы павінны быць вытрыманы ў каранціне пад назіраньнем, ці не заражаны яны якой-небудзь хваробай, і калі гэта ёсьць, то вылечыць іх уперад, чым зьмяшчаць у агульны лісятнік. Наогул захварэўшыя жывёліны павінны быць неадкладна ўзяты з гадавальніка і павінны быць зьмешчаны асобна ня менш, чым на тры тыдні. Калі яны чым-небудзь хворы, то гэта вызначыцца за гэты тэрмін.

Лісавод павінен падтрымліваць самы суровы каранцін супроць усякай хваробы, якая зьяўляецца ў суседзкіх гадавальніках. Таму што сабакі і іншыя жывёліны, як і людзі, могуць разносіць інфэкцыю з аднаго гадавальніка ў другі, то такія наведваньні гадавальніка павінны быць забаронены для папярэджаньня распаўсюджаньня хвароб.

Лісіц у каранціне трэба трымаць пад суровым назіраньнем і іх належыць добра абглядзець компэтэнтнаму вэтэрынару ўперад, чым выпусьціць іх з каранціна і зьмясьціць у галоўны гадавальнік. Жывёліны, захварэўшыя ў час быцьця ў карантыне, павінны быць зараз-жа пераведзены ў „больніцу" і падвяргнуцца лячэньню пад назіраньнем вэтэрынара. Для іншых-жа лісіц, быўшых разам з захварэўшымі жывёлінамі, карантын павінен быць пасілен і прадоўжан ня менш, чым на месяц яшчэ. Клеткі, у якіх лісіцы захварэлі, трэба зараз-жа ачысьціць, прадэзынфэкаваць і пакінуць незанятымі магчыма на далей.

Раюць мець у гадавальніках асобных служачых для хворых лісіц і іншых, падазроных на хворасьць. Гэтыя служачыя не павінны заходзіць у памяшканьні для кармленьня, з клеткамі для гадаваньня дзяцей, з здаровымі лісіцамі і абавязаны прымаць усе меры перасьцярогі, каб не распаўсюдзіць інфэкцыі. Тое-ж самае і са служачымі ў здаровых лісіц, яны павінны ўхіляцца падыходзіць блізка да тых месц, дзе знаходзяцца

хворыя або падазроныя на хворасьць жывёліны. Калі-ж гэта чаму-небудзь немагчыма, то служачы павінен у першую чаргу зрабіць усё неабходнае ў здаровых лісіц, затым у падазроных і, у рэшце, у хворых. Пры даглядзе апошніх служачыя павінны насіць асобную гумавую адзежу і абутак. Усю гэтую адзежу трэба здымаць, абутак і рукі прадэзынфэкаваць уперад, чым ісьці ў памяшканьне для корму або хаткі для будучых дзяцей лісаў. Корм, узяты для карантыннага аддзяленьня або для бальніцы, павінен быць выкарыстан там, і ўся астача яго спалена або закопана вельмі глыбока. Неабходна мець асобны камплект пасуды для карміленьня хворых, набор мэдыцынскіх прылад для карантыннага аддзяленьня і другі камплект для больніцы. Ніводнага з гэтых прадметаў нельга пераносіць у другія мясцы, пакуль яны ня будуць добра прадэзынфэкаваны.

Калі ёсьць падазрэньне, што жывёліна захварэла, то трэба думаць, што яна заражана якой небудзь хваробай. Гэта дае магчымасьць лісаводу папярэдзіць распаўсюджаньне хваробы або яе ўжытку ва ўсім гадавальніку. Захварэўшая жывёліна зараз-жа забіраецца з гадавальніка, а тыя, якія з ёй былі, пераводзяцца ў карантыннае аддзяленьне і там утрымліваюцца месяц ці болей. Як клетка, так і хатка забалеўшае жывёліны чысьцяцца, дэзынфэкуюцца і пакідаюцца незанятымі ня менш чым на месяц.

Хворых або здохшых лісіц ніколі ня трэба прыносіць у памяшканьне. З здохшых лісіц, асабліва загінуўшых ад хваробы, здымаюць скуру па-за гадавальнікам і як мага далей ад яго, а мяса зусім паліцца. Усе інструмэнты, якія ўжываліся для дагляду за хворымі лісіцамі і для здыманьня скур, трэба як мага хутчэй пракіпяціць. Пры малейшым захварэньні лісіцы належыць зараз-жа зьвярнуцца да вопытнага вэтэрынара для дасьледваньня захварэўшае жывёліны, для выяўленьня хваробы і, пасьля дыагнозу, падвяргнуць жывёліну лячэньню пад назіраньнем урача.

Дэзінфэкцыя зьнішчае ўтвараючыя хваробу пачаткі або робіць іх няшкоднымі і сродкі, якія ўтвараюць гэтыя дзеяньні, называюцца дэзынфэкуючымі сродкамі. Звычайна дэзынфэкцыя складаецца з мэханічнага зьнішчэньня магчыма большае колькасьці заразных пачаткаў і, апроч таго, зьнішчаючца тыя інфэкцыйныя зародкі, якія маглі-б застацца. Папярэдняе зьнішчэньне заразы разам з гноем, падсьцілкамі і розным брудам неабходна ня толькі таму, што гэтыя арганічныя рэчаіснасьці спыняюць дзейнасьць большасьці дэзынфэкуючых сродкаў, але і таму, што гэтыя апошнія дзейнічаюць толькі да вядомай глыбіні глебы.

Пасуду для карміленьня і паеньня лепш за ўсё дэзынфэкаваць, добра прамываючы яе ў цёплай мыльнай вадзе, затым трэба яе прапаласкаць, а потым пракіпяціць мінут 15 або прапарыць у зачыненым чане на працягу гадзіны ці больш, або пагрузіць яе ў надыходзячы дэзынфэкуючы росчын. Шчыпцы, нажы для здымкі скурак і г. д. дэзынфэкуюцца вышэйпамянёным спосабам або мыюцца ў цёплым 3% росчыне крэзолу, або ў якім-небудзь іншым прэпараце каменнавугальнага дзегцю адпаведнай крэпкасьці. У памяшканьні для прыгатаваньня корму і для карміленьня лісіц пры дэзынфэкцыі скрабуць жорсткай шчоткай сьцены, падлогу і сталы з гэтым жа росчынам.

Зусім здавальняючы спосаб дэзынфэкаваць хаткі і гнездавыя скрынкі складаецца з наступнага: спачатку зьнішчаецца падсьцілка, гной і ўсякі бруд і ўвозіцца далей ад гадавальніка, і лепш спаліць яго, затым добра абскрабаюць жорсткай шчоткай хаткі і гнездавыя скрынкі вадой з 5% росчынам шчолаку або соды, пры гэтым трэба дакладна вымыць усе куткі і шчэлкі, затым усё апаласкваюць чыстай вадой і апырскваюць росчынам дэзынфэкуючай вадкасьці, урэшце асушаюць хатку або добра прагравaюць паяльнай лямпай і пакідаюць хатку адчыненай на некалькі гадзін. Належыць таксама прапітаць глебу гарачым 5% мыльным росчынам крэзолу або якім-небудзь іншым прэпаратам каменнавугальнага дзегцю, урэшце, абпаліць глебу вялікай паяльнай лямпай. Гэтым спосабам вельмі добра дэзынфэкуюцца клеткі ад усякіх бактэрый.

Тушкі лісіц, асабліва хворых, трэба паліць. Адзежа лепш за ўсё чысьціцца і дэзынфэкуецца кіпячэньнем вады. Гумавыя абуткі і ім падобныя, што ня вытрымліваюць гарачай вады, трэба дэзынфэкаваць якім-небудзь добра дзейнічаючым сродкам, напрыклад, 3% мыльнага росчына або 4% росчына фармаліна.

Проф. **В. Я. Генэрозаў.**

## Пара падумаць.

„Белкохотсоюзом" пастаўлена пытаньне перад акруговымі таварыствамі аб падрыхтоўцы да Усебеларускай выстаўкі. Гэта падрыхтоўка не павінна скончыцца зборкай статыстычнага матар'ялу, складаньнем дыяграм ды картаграм і выстаўкай чучал прадстаўнікоў нашай фаўны. Нам неабходна паклапаціцца і дастаўкай жывых экспанатаў, каб абставіць паляўнічы пад'аддзел на выстаўцы, як мага лепш.

Але ці гэтым павінна скончыцца наша работа ў галіне папулярызацыі беларускай фаўны? Ці павінны быць выпушчаны зноў на свае родныя месцы ўсе тыя жывыя экспанаты, якія будуць паданы на выстаўку паляўнічай каапэрацыі?

Мне здаецца, што гэтыя экспанаты павінны быць выкарыстаны для арганізацыі ў Менску „Зоолёгічнага саду", „Жывога кутка паляўнічага", „Кутка прыроды"; можна назваць яго ўсяк, але пачатак арганізацыі такой установы ў Менску ці дзе-небудзь у іншым месцы, павінны ўзяць ад Усебеларускай выстаўкі, каб выкарыстаць экспанаты ад яе.

Хай наша моладзь бача, вывучае жыцьцё і прывычкі ых зьвяроў і птушак, якіх на волі яму, ня так легка ўбачыць у Беларусі, а паехаць у Маскоўскі зоолёгічны парк удасца ня кожнаму.

Пры гэтым зоосадзе павінен працаваць пад вопытным кіраўніцтвам гурток юных натуралістых, аб'яднаны маладыя паляўнічыя, якія могуць наглядна вывучаць жыцьцё жывёлы.

Ня мала карысьці і прыемных мінут дасьць гэты сад і нашым паляўнічым, асабліва маладым. Мне скажуць, ну, а дзе-ж сродкі на арганізацыю ўсяго гэтага? Я лічу так, што гэта справа павінна разгортвацца патроху і яе павінен узяць на сябе Наркамасьветы, прыцягнуўшы да яе Наркамзем, Наркамгандлю і таварыства Краязнаўства і інш.

Трэба толькі пачаць і падняць гэта пытаньне перад Цэнтральнымі органамі ўлады і ўсімі зацікаўленымі ўстановамі і арганізацыямі і пасьля вырашэньня прыступіць да працы. Калі сур'ёзна ўзяцца за яе, то вядома, агульнымі сіламі мы зможам пасьпяхова яе вырашыць.

**Б. С.**

## Хітрасьць ваўкоў.

Дубровенскай сельячэйкай паляўнічых Рэчыцкага раёну для правядзеньня „двохдзёньніка" на карысьць абароны краіны былі абкладзены і абнесены сьцяжкамі 6 ваўкоў. Сьцяжкі віселі на 1/2 мэтра ад зямлі, месца для выхада на лініі стральцоў заставалася 200—300 крокаў. Аблава пачалася пад вечар. Стральцы растаўлены супроць ветра, бо з-за ветранага боку было поле. У загон пусьцілі двох стральцоў. Калі паднялі ваўкоў, частка іх пайшла на лінію стральцоў і ваўчыцу зараз-жа забілі, а апошнія, дабегшы да сьцяжкоў, спыніліся і пайшлі па лініі, каля сьцяжкоў. Як толькі яны дайшлі да сьцяжкоў чырвоных з сінім, не пасыпаных нафталінам, пераскочылі адзін за адным праз сьцяжкі і выйшлі з загону.

Дні праз 2—3 членамі ячэйкі зноў былі абкладзены 2 ваўкі. Дуў сільны вецер. Ваўкоў ганялі ў кругу сьцяжкоў да самага вечара і, як толькі пацямнела, ваўкі пайшлі праз сьцяжкі, але ніяк не хацелі ісьці на лінію стральцоў.

З гэтага відаць, што пры ўчыненьні аблавы з сьцяжкамі, трэба памятаць, што:

1. Сьцяжкі не павінны быць пёстрымі, а чыста чырвонымі і абавязкова пасыпаны якім-небудзь вельмі пахучым парашком.

2. Пры абносе ваўкоў сьцяжкі павінны быць нацягнуты роўнамерна без напраўленьняў ўніз і ўверх і ня вышэй мэтра ад зямлі.

3. Павінна захоўвацца поўная цішыня, бяз курэньня, кашляньня, чыханьня і г. д.

4. Лінія стральцоў пры ўсіх выпадках павінна быць размешчана за ветрам, а ня супроць.

5. Абклад і загон пачынаць з раніцы і ні ў якім разе не пакідаць да вечара, бо выпадкі з Дубровенскай ячэйкай гавораць за тое, што воўк у цемнаце сьцяжкоў не баіцца ці ня бача іх зусім. Ваўкі баяцца менш сьцяжкоў пёстрых, чым чыста чырвоных.

**Бабчонак.**

**Аб'ядноўваючы ў калгасы мільёны бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, ліквідуем кулацтва як клясу.**

# ЗА ІНТЭНСІФІКАЦЫЮ РЫБНАЕ ГАСПАДАРКІ.



СЬНЕЖНІ 1929 г. на Беларусі арганізавана Акцыянэрнае Т-ва „Белрыба“, якому пастаўлена задача забясьпечыць насельніцтва БССР бялковымі прадуктамі — рыбным мясам. З прычыны таго, што да гэтага часу эксплёатацыя вадаёмаў у БССР вялася саматужным парадкам, бясплянава, шмат вазёр здавалася ў эксплёатацыю прыватнікам. Вазёры кепска эксплёатаваліся, перазасяляліся і рыба ў іх часткай адмірала і драбнела, а то шкодна зьнішчалася людзьмі.

Краіна індустрыялізуецца, сельская гаспадарка ў сучасны момант рэарганізуецца з мэтай падняцьця інтэнсіфікацыі, а таму паўстала пытаньне і аб рэарганізацыі рыбнае гаспадаркі.

Гэта мерапрыемства зьяўляецца вельмі сваячасовым, бо ў сучасны момант на рынку адчуваецца недахоп мяса і яго можна замяніць рыбай. Перавага рыбы перад іншымі жывёламі заключаецца ў тым, што рыба куды хутчэй становіцца рынычным прадуктам, чым іншая жывёла.

Базай для разьвіцьця рыбнае гаспадаркі „Белрыбай“ служаць вазёры і рэкі, якія знаходзяцца на абшарах БССР і прудовыя гаспадаркі, перададзеныя НКЗ агульнай плошчай 1438 *га*.

Задачай „Белрыбы“ зьяўляецца ня толькі вылаўліваньне той рыбы, якая ёсьць у вазёрах, рэках ды прудах БССР, а, галоўным чынам, разьвядзеньне ў прудовых рыбных гаспадарках тых парод рыб, якія хутка растуць. Такой рыбай зьяўляецца карп і часткова—карась і лінь. Зараз вытвараецца вялікая колькасьць моладзі карпа, якой будуць засяляцца рыбныя гаспадаркі калгасаў і саўгасаў. Вялікая колькасьць моладзі карпа будзе кінута і ў тыя вазёры, дзе ўся іншая рыба вылаўлена; там будуць развадзіцца карпы ў штучных умовах. Тыя-ж вазёры, якія не падойдуць для гэтае мэты, будуць выкарыстаны для разьвядзеньня хутка растучай расы карася.

Карп перад іншымі рыбамі мае тую перавагу, што хутка расьце: так, на другі год жыцьця дасягае амаль што да аднаго кілё вагой, гэта значыць рынычнай каштоўнасьці.

Рыбная гаспадарка будзе разьвівацца і за кошт акліматызацыі рыб. Так, некаторыя, больш спрыяючыя сваім вадзяным рэжымам, вазёры, будуць засяляцца такімі каштоўнымі і нежнымі пародамі рыб, як: сіг, ракушка, лешч, угор, сьцерлядзь і інш.

Для атрыманьня большага ўраджаю ў некаторых вазёрах будзе ўчынена мэліарацыя, будзе спускацца вада; вазёры будуць ачышчацца ад зарасьляў і бруду; будзе пераворвацца і вапнавацца дно вазёр. Тыя вазёры, якія немагчыма спусьціць, будуць аблоўлены ад рыбы і заселены больш каштоўнай, наогул да кожнага возера будзе ўжыта тое ці іншае мерапрыемства для паляпшэньня яго каштоўнасьці і толькі тыя вазёры, дзе гэта зрабіць будзе нельга, будуць эксплёатавацца ў натуральных умовах, але найбольш інтэнсіўна, чым зараз.

У прудовых гаспадарках, апроч мэліарацыйных мерапрыемстваў, будзе ўжывацца штучнае падкармліваньне рыбы. Такім чынам, рыбная гаспадарка пачне хуткім тэмпам разьвівацца і адзін гектар прудовае гаспадаркі дасьць ад 200 да 600 клгр. рыбнага мяса. Калі ўзяць сярэдні кошт клгр. мяса рыбы за 70 кап., дык адзін *га* пруда дасьць ад 140 да 420 р. валавога прыбытку. Адгэтуль відаць, наколькі карысна займацца рыбаводзтвам калгасам і саўгасам, тым больш, што саўгасам ды калгасам ня трэба траціць вялікіх сродкаў на пабудову дорага каштуючых гадавальнікаў ды зімавальнікаў.

Яны павінны будуць у падыходзячых мясцох пабудаваць сыстэму спускных прудоў, заліваць іх вадой, узяць пасадачны матар'ял увясну з бліжэйшых рыбных гаспадарак „Белрыбы“ і засяліць свае пруды. Увосень спусьціць пруды праз водаспускі, застаўленыя рашоткамі і сабраць рыбу, якая засталася ў пруду лёгка і проста.

„Белрыба“ ў пяцігодцы прадугледжвае, што ў 1931 годзе можна адпусьціць для саўгасаў і калгасаў 1.000.000 карпаў гадавікоў, у 1932—2.000.000 і ў 1933 г.—3.000.000 для пасадкі; акрамя, таго выпусьціць на рынак таварнай рыбы толькі з прудовых гаспадарак: у 1930 г.—2.240 цэнт., у 1931 г.—8642 цэнт., у 1932 г.—30233 цэнт. і ў 1933 г.—62194 цэнт. і столькі-ж вазёрнай і рачной рыбы.

На гэтым, вядома, разьвіцьцё рыбнае гаспадаркі ня спыніцца. Па заданьню ўраду, прадукцыя рыбнае гаспадаркі павінна быць павялічана ўтрое, а то і ўчацьвёра. Гэту задачу „Белрыба“ можа выканаць толькі пры ўдзеле калгасаў і саўгасаў, уцягнуўшы ў гэту справу ўсю савецкую грамадзкасьць.

**Грышын.**

**Ня браць на камісію для продажу стрэльбу кулака, які выключаецца з саюзу, а канфіскаваць.**

**Не выдаваць паі выключаным з саюзу кулакам, а залічыць іх у фонд коопэраваньня бедняты.**



# Ахова прыроды



## Национальные парки и заповедники.

По мере развития культуры человечество захватывает все большую и большую часть поверхности земного шара. Недоступные ранее, как казалось, уголки земной поверхности, теперь заселяются и под влиянием человеческого труда постепенно изменяют свой лик. Но это победное шествие культуры несет вместе с собой гибель девственных лесов и степей с их животным и растительным миром. Конечно, человечество не может равнодушно взирать на плоды своих же рук. Человеческая мысль ищет выхода из создавшегося положения, стремясь сохранить в полной неприкосновенности хотя бы некоторые, наиболее интересные, уголки земли с их первобытными чертами. Такой выход найден в идее организации так называемых „национальных парков" или заповедников, представляющих собой более или менее значительные участки, на территории которых в законодательном порядке запрещается всякая человеческая деятельность в отношении нарушения естественного вида ландшафта, т.-е. рубка леса, уничтожение насаждений, охота и т. д. Классической страной национальных парков является Северная Америка. В настоящее время там насчитывается 19 парков, занимающих в общей сложности огромную площадь в 11.804 квадратных миль. При правительстве Соединенных Штатов создано даже специальное бюро по управлению Национальными парками. Первым по порядку возникновения является парк „Горячие Ключи" в штате Арканзас, созданный для охранения 46 горячих источников, обладающих целебными свойствами (в 1832 г.) Вторым по порядку является знаменитый Целлоустонский парк, расположенный в северо-западной части штата Уайоминг и занимающий площадь в 3348 кв. миль. Это самый большой по площади парк в Соединенных Штатах Сев. Америки и вообще один из самых значительных во всем мире. Целлоустонский парк являлся в третичный период жизни земли ареной действия больших вулканических извержений. Здесь встречается масса гейзеров: некоторые из них дают струю до 40 саж. высотой. Вообще здесь больше гейзеров, чем во всем свете вместе взятых. Помимо того здесь встречаются красивые террасы, образовавшиеся из осадков горячих ключей, грязевые вулканы, окаменелые леса, огромные каньвоны, большие озера, реки, водопады, громадные девственные хвойные леса с массой диких животных. Остальные американские парки призваны сохранить для будущих поколений отдельные, почему либо интересные, черты ландшафта или исчезающих животных и растений. Несколько довольно значительных национальных парков имеется в Канаде и Британской Колумбии. Интересен Канадский Национальный Бизонный Парк для охраны бизонов (основан в 1907 году). В Южной Америке основано два парка в Аргентине, в области девственных тропических лесов из буков, арацкарий и др. деревьев. Есть национальные парки и в Австралии, и в Новой Зеландии. Несколько лет тому назад основан Южно-Африканский парк для охраны исчезающих крупных животных. В Африке же существует огромный заповедник (61.000 кв. км.) в верховьях Нила, где охраняются слоны, дикие буйволы, жирафы и др. Что касается европейских стран, то во многих из них, несмотря на незначительность общей территории по сравнению с внеевропейскими континентами, все же выделены заповедные области для охранения различных ландшафтов и органического мира. Особенно интересен пример Швейцарии, создавшей несколько заповедных участков, откупленных на частные средства „комиссией по охране природы". Большая деятельность по организации национальных парков и заповедников развилась также в Германии. В Швеции парламентом принято постановление еще в начале тек. столетия об организации 10 национальных парков. В Италии недавно (в 1922 г.) организован национальный парк Гран Парадизо площадью в 77.000 гект., в котором охраняются ледники, живописные горы, ущелья, водопады, из животных—горностаи, ласки, каменные бараны и ряд исчезающих растений. Всего в этой стране в настоящее время имеется два заповедника. В Союзе ССР идея охраны природы за последнее время получила прочный базис. В настоящее время при Главнауке в Москве существует отдел охраны природы, ведающий делом устройства и управления заповедниками. Заметим, что первые декреты, относящиеся к заповедникам, были подписаны В. И. Лениным (см., например, декрет 1920 года о Государственном Ильменском заповеднике).

В настоящее время в пределах РСФСР имеется около 40 заповедников, не считая ряда заказников. Чем отличается заповедник от заказника? Главное отличие заключается в том, что первый, т.-е. заповедник (или Национальный Парк американцев), учреждается навсегда на „веки вечные", а заказник временно на 3, 5 и более лет. Как заповедники, так и заказники могут быть полными и частичными. В полном заповеднике воспрещается всякая деятельность человека, в частичном она допускается в ограниченных, точно установленных размерах. Из наиболее крупных заповедников РСФСР укажем на Крымский, занимающий площадь 7929 *га*. Помимо того, он окружен площадью в 9655,53 *га* охранного района, являющегося частичным заповедником. Этот заповедник расположен в Крымских горах. Он основан в 1920 г., его задачей является охрана леса и Крымской горной фауны (олень и др. животные). Подобен Крымскому Кавказский заповедник (основан в 1920 г.), лежит в Майкопском округе и Сочинском районе, охраняет горную кавказскую фауну и флору. Все остальные заповедники меньше по площади; их назначение охранить или отдельные части типичных ландшафтов: тундровый, лесотундровый, хвойный, степной и др. или отдельные предметы: деревья, пещеры, валуны, озера, отдельные виды животных и др. В других республиках также имеется ряд заповедников. В Белоруссии расположен один заповедник, занимающий площадь в 65 000 гект., из них под лесом 46 тыс. гект. Он лежит по обоим берегам р. Березины в 30 км. от г. Борисова. В белорусском заповеднике живут бобры (32 семьи), лоси, кабаны, рыси, медведи. На Украине имеются: 10 приморских заповедников, ряд степных, в том числе знаменитая Аскания Нова (теперь Чапли) с рядом вспомогательных и научных учреждений, один геологический заповедник в Мариупольском округе, два лесных заповедника и рыбный заповедник Конча Заспа на среднем Днепре с научной рыбной станцией. В Грузии имеется только один заповедник—тиссовая роща в Телавском уезде. В Абхазии заповедана роща пицундской сосны на мысе Пицунда. В Азербайджане находится заповедник в устьях Куры и Кызыл—Агачском заливе, где скопляется масса пролетной птицы: пеликаны, лебеди, краснозобые казарки и др. Намечается к организации ряд заповедников в Узбекистане. В Туркменистане находится заповедник Репетекский, охраняющий участок пустынного ландшафта с его своеобразной флорой и фауной.

**В. Е—ов.**



Селянін П. Худукоў (Усурыйскі Ч. Ш.) корміць сваіх пятністых аленяй. Алені яго ўвесь час бываюць на волі.

# КАРЦЕЧЧУ ПА

## Партыйная чыстка кіраўнікоў „МОЗОХОТЫ“

у апараце працуе варожы элемэнт, начальства палявала на забароненага да адстрэлу бяз пляну і каштарысу, выдаткі перавышалі прыбытак, накладныя выдаткі павышаліся

### „Мозохота“ скацілася з клясавых рэек.

Яшчэ ў мінулым годзе, калі былі выкрыты агідныя паходжаньні мазырскіх кіраўнікоў—Сасноўскага, Васільлева, Стрэле і інш., часткова былі закрануты паводзіны Мазырскага праўленьня т-ва паляўнічых і, у прыватнасьці, старшыні праўленьня гр. Бобрыка.

Спачатку можа ўзьнікнуць пытаньне, якую сувязь мае т-ва паляўнічых з паводзінамі акруговых і рэспубліканскіх кіраўнікоў? Ларчык расчыняецца зусім проста. Справа ў тым, што лясы Мазырскае акругі зьяўляюцца лепшым месцам для паляваньня.

Быў выпадак, калі было арганізавана спэцыяльнае паляваньне на забароненага законам рэдкага зьвера—лося, на якога дазвол павінны былі прывезьці нібыта паляўнічыя з Менску, але на гэты раз госьці ня прыехалі і дазволу ня прывезьлі. Паляваньне ўсё-ж адбылося і лось быў забіты адным селянінам, за што былы сакратар АК КПБ Сасноўскі даў удаламу паляўнічаму 20 руб. узнагароды за меткі стрэл. У гэтым паляваньні не апошняе месца займаў і былы старшыня саюзу паляўнічых Бобрык, які ня толькі не супярэчыў незаконнаму паляўніцтву, але і дастаўляў прылады паляваньня, як зарады, сьцяжкі і інш.

Да рэчы, аб сьцяжках! Да апошняга часу, невядома, дзе згінула сьцяжкоў на 300—400 руб., якія лічацца па бухгальтэрыі за былым старшынёй „Мозохоты“ Бобрыкам.

За час працы Бобрыка была зроблена растрата на досыць значныя сумы, за што быў асуджаны Бобрык і бухгальтар, але выкрыты злачынныя дзеяньні кіраўнікоў саюзу паляўнічых ня поўнасьцю. Разьмер артыкулу не дазваляе апісаць усё тое, што ў гэтым час выяўлена, бо гэтых агіднасьцяй вельмі шмат.

Прывяду толькі некаторыя з іх, як напрыклад: саюз паляўнічых сабраў 12000 руб. паявых узносаў, але дзякуючы нядбайнасьці адсутнічаюць запісы, ад каго атрыманы паі і, такім чынам, нельга ўстанавіць, хто з пайшчыкаў унёс поўнасьцю пай, а хто яшчэ павінен даплачваць.



Саюз даваў значныя сумы авансаў сваім працаўнікам, а таксама іншым грамадзянам так званую падтаварную пазыку грашмі і паляўнічымі прыладамі. Такіх крэдытаў маецца да 1500 руб., якія ня ўносяцца па 2—3 гады. Вось, напрыклад, былы мазырскі пракурор Феўралёў доўгі час быў павінен 40 руб., якія ўнёс пасьля шматлікіх напамінкаў, але праз некаторы час прынёс у магазын зайцаву скурку і папрасіў пазыку пад ліса. Вядома, як адказаць пракурору ў просьбе на якія-небудзь 40 руб., і грошы былі выдадзены. Пракурора перакінулі ў іншую акругу, ліс застаўся бегаць у лесе, а крэдыт застаўся непакрытым.

З Феўралёвым яшчэ туды-сюды, бо яму давалася пад тавар, а некаторым проста на выпіўку, асабліва з кім выпіваў сам Шнэйдэр.

Асоба Шнэйдэра заслугоўвае асаблівай ўвагі, бо ён зьяўляецца самым найвопытнейшым працаўніком праўленьня, які пры жаданьні мог-бы працаваць, але кепска тое, што станоўчы вопыт яго перадаваўся працаўнікам кепска, затое адмоўны вопыт, як безгаспадарчасьць, сувязь з прыватнікам і кулакамі перадаваўся і ўжываўся ў праўленьні вельмі добра. Напрыклад, калі былы старшыня т. Дамброўскі перадаваў справы вылучэнцу т. Целяпуну, то ён даў яму папку з сакрэтнай перапіскай, а аб усіх гаспадарчых справах саюзу сказаў „там усё добра“. Тав. Целяпун, як вылучэнец які ніколі ня кіраваў установамі, упяршыню папаў на гаспадарчую працу і „камуністы“ Дамброўскі і Шнэйдэр, замест таго, каб асьвятліць сапраўднае становішча, ашукалі вылучэнца і перадалі яму прывычкі старога кіраўніцтва. Вось некалькі момантаў гэтага старога.

У Пятрыкове маецца прыймальны рыбны пункт, дзе раней быў загадчыкам нейкі Гутлін, які за контр-рэвалюцыйную дзейнасьць высланы у Салаўкі. Кіраўнікі саюзу паляўнічых парашылі быць добрымі для Гутліна і пакінулі па насьледству загадваньне пунктам яго жонцы, якая атрымлівала па некалькі тысяч авансу дзеля разьлiку з рабочымі, а таксама мела вялікія сродкі ад рэалізацыі рыбы на месцы.

Заслугоўвае ўвагі клясавая лінія, якую праводзіць гэтая Гутліна, напрыклад: стаіць чарга за рыбай, калі прыходзіць жонка рабіна, то ёй даецца рыба без чаргі і лепшы гатунак. У Пятрыкове былі сябры праўленьня і начавалі ў Гутлінай, і сьвежую рыбку елі, і ведалі аб усіх гэтых учынках, але нічога не зрабілі, каб іх зьнішчыць.

Вылучэнства, за выключэньнем самаго старшыні, зусім адсутнічае, ня гледзячы на тое, што сыстэма зьверху да нізу прапітана нэпманамі ды лішэнцамі. Калі патрэбен быў чалавек на пасаду прымальніка, якую з посьпехам мог-бы заняць сябра рыбалоўнай арцелі, на гэтую пасаду быў прыняты па рэкамендацыі члена праўленьня Шнэйдэра пазбаўлены правоў Шэйман, якога часта можна спаткаць, праходзячы пад ручку з Шнэйдэрам.

Усё гэта гаворыць за тое, што паляўнічая і рыбная гаспадарка Мазырскай акругі знаходзіцца ня толькі ня ў надзейных, але і ў чужых руках.

Таварыствам паляўнічых ніхто ня цікавіцца, яно разглядаецца як нешта другараднае і мала-каштоўнае. Усім вядома, што яна засьмечана чужымі і часта варожымі элемэнтамі, якія праз гэтую арганізацыю маюць магчымасьць атрымліваць зброю. Але ніхто нічога не зрабіў для таго, каб яе аздаравіць.

Папярэдняе акруговае кіраўніцтва абмяжоўвалася тым, што „пазычала“ прылады для паляваньня. Гэтае кіраўніцтва зараз зьменена, але адносіны да т-ва паляўнічых не зьмяніліся, бо апрача няўдалага вылучэнства т. Целяпуна ніякага інтарэсу да аздараўленьня гэтае вельмі важнае арганізацыі не праяўлена і гэтаму вылучэнцу павіннай увагі не аказвалася.

Трэба тэрмінова і рашуча ўжыць крокі да аздараўленьня Мазырскага таварыства паляўнічых, якое займае значнае месца ў нашай гаспадарцы. Неабходна выкінуць усіх нэпманаў, кулакоў і тых, хто ім садзейнічае.

**Смаль І. Т.**

## Спящая

Где-то, что-то
Средь болота,
Хвойных, мозырских лесов,
Спит спокойно.
*„Мозохота“*
Видит много сладких снов.
Нет сомненья,
Что в правленьи
„Активисты“ все сидят.
Все проспали,
Проморгали
И, как будто, сидя спят.
*„Мозохота“*
Без охоты
Все дела свои вела.
Знаем все мы
Без системы
Бестолково шли дела.
Там ретиво
Директивы
Собирали под сукно.
Где же
Инициативы?
Это, брат, не все одно.
Ну, братишки,
И делишки,
Восем бед—один ответ.
Время двинется,
А чистки
В товариществе все нет.
Где уж нам уж
Выйти замуж,
Коль правленье сидя спит?
Даже соц.

# ГАЛАВАЦЯПАХ, БЮРАКРАТАХ і БРАКАНЬЕРАХ



## І праверка працы Таварыства выявіла, што:

**каштоўнага зьвера, сувязь з нэпманам і кулаком, працавалі ў два разы, зварот зьменшыўся напалову, безгаспадарчасьць.**

## „Без руля і без ветрыл“.

Ня раз ужо пісалася на старонках нашае часопісі пра Мазырскае Т-ва паляўнічых, але ўсе гэта рабіла такі ўплыў на кіраўнікоў „Мозохоты“. „як параным гарохам па сьцены“.

„Мозохота“, як жыла бяз плянаў, без напрамку ў будучыне, так і засталася пры гэтым і на сёньняшні дзень. бо ні ў якім разе ня толькі плянам, а і каштарысам нельга лічыць той „каштарыс“, які быў знойдзен у балотнай твані „Мозохоты“. Гэты, з дазволу сказаць, каштарыс зусім нерэальны і выканан ня так, як трэба: прыходная частка яго выканана з памяншэньнем, а выдатковая—з павялічэньнем. ад чаго за бягучы апэрацыйны год выявілася страта ў 4850 р. 05 к.

Каштарысная меркаваньні па гандлёвай частцы выкананы як раз наадварот пастанове VIII Сходу ўпаўнаважаных: замест павялічэньня звароту да 50.000 руб. і памяншэньня процанту накладаньня да 12%, атрымалася: памяншэньне звароту да 28.400 руб. і павялічэньне накладаньняў да 24%.

Былі выпадкі перабоеў у задавальненьні паляўнічых ходкімі таварамі ў той час, калі сьценкі магазыну трэскаліся ад непатрэбных тавараў. Праўда, у гэтым вінават і „Белкохотсоюз“, які ўсучыў на вялікую суму нікуды нявартых і нікому не патрэбных у Беларусі імпортных сецяў. Большую частку гэтых сецяў па атрыманьні ўзораў „Мозохота“ зьвярнула „Белкохотсоюзу“, але ўсе-ж такі яна ня скора „выплутаецца“ з гэтых сецяў.

У магазыне „Мозохоты“ бруд, тавары ляжаць у беспарадку; сырэпць, пакрываюцца плесеньню, ржаўчынай і пылам. Няма гаспадарскага вока, няма прэйскуранта, рахункаў. Цэны часьценька залежаць ад сумленнасьці загадчыка магазынам. Падліку камісійных тавараў няма, хоць па актах яны і значацца, але паступленьняў у праўленьне ад іх рэзалюцыі ня было.

Грошы загадчыкам магазынам здаюцца несваячасова: былі выпадкі, калі выручка магазына паступала два разы ў месяц.

Наогул „бухгальтэрыя“ працуе кепска, ад чаго запазычанасьць Т-ва „Белкохотсоюзу“ (каля 11.000 руб.) не пакрывалася на працягу цэлага году. Калектывы набіралі тавараў на вялікія сумы і несваячасова давалі справаздачу аб іх. Ад гэтага маюцца вялікія разыходжаньні між бухгальтарскімі запісамі і зьвесткамі раённых рэўкамісій.

Напрыклад: за Жыткавічамі лічыцца 530 руб. 06 кап., рэўкамісія паказвае толькі 378 р. 99 к.; Капаткевічамі—1453 р. 65 к., а прынята 813 р. 62 к.; Туравам—1619 р. 56 к., прынята—1233 р. 91 кап.

Запазычанасьць прыватных асоб па балянсу расьце і на I/X-29 г. складала 5852 руб. 95 кап. за 116 асобамі.

Загатоўкі пушніны праводзяцца вельмі слаба. Праўленьне, мусіць, не ўявіла важнасьці загатовак пушніны, як экспортнай сыравіны, і плян у гэтым годзе будзе, мусіць, сарван. (Па традыцыі „Мозохоты“).

З каго складаецца таварыства паляўнічых, аб гэтым нічога у Т-ве ня ведаюць.

Чысткі не праводзілася. Пры перарэгістрацыі „Мозохота“ дала дырэктыву аб неперарэгістраваньні лішэнцаў і кулакоў і атабраньні ў іх стрэльбаў і ўсё-ж два лішэнцы былі пакінуты ў адным калектыве. Праўленьне нават ня ведае, колькі паляўнічых сельчэчак маецца на перыфэрыі.

Фонд каапэраваньня беднаты выкарыстан толькі на 33% і ўсё каапэраваньне адбываецца самацёкам, бяз сыстэмы—„хто каго“. Напрыклад, Жыткавіцкі калектыў каапэраваў сялян 4 катэгорыі, гэта значыць—моцных сераднякоў, праўда праўленьне не зацьвердзіла гэта „капэраваньне“; Каралінскі калектыў дае на кожнага каапэруемага па 1 р. 50 к., а Юравіцкі—5 р. 85 к. Гэта сьведчыць аб тым, што няма кіраўніцтва акруговага т-ва.

Кепска вядзецца паляўнічая гаспадарка: кантрольныя лічбы „Белкохотсоюза“ па пяцігодцы ня выкананы; ніякіх мерапрыемстваў па аднаўленьню паляўнічае гаспадаркі не праводзілася, калі ня лічыць захаваньня тэрмінаў паляваньня да адшуканьня ўгодзьдзяў для заказьнікаў, якія, дарэчы, ёсьць толькі на паперы; навокал паляўнічае гаспадаркі ня ўтворана грамадзкая думка: ня ўцягнуты масы ў гэтую справу, чым і тлумачацца ўсе недахопы ў рабоце „Мозохоты“.

А ў Мазырскай акрузе пытаньне аб правільным вядзеньні паляўнічае гаспадаркі набывае актуальнае значэньне, зьяўляючыся найбагацейшай акругай дзічынай і зьверам.

Сабакагадоўля зусім у загоне, нават няма дакладнага падліку паляўнічых сабак, а якаснага няма і ня было зусім. За ўвесь перыяд ня было ніводнай выстаўкі, вывадкі, а тым больш палявых спроб. Атрыманыя сабакі ад „Белкохотсоюза“, ня гледзячы на дагавор з праўленьнем, на вучот ня ўзяты. Гэтыя сабакі, вельмі добрыя па рабоце і экстэр'еру, ніякай карысьці сабакагадоўлі ў Мазырскай акрузе ня прынесьлі. Мала таго, адна з гэтых сабак знаходзіцца ў былога сакратара праўленьня Кубліцкага, які пракраўся і выключан з т-ва.

Па „чыстасярдэчнаму“ прызнаньню праўленцаў культпрацы зусім не вялося і ня ставілася гэтае пытаньне на абгаварэньне, адгэтуль вынікі: бібліатэка ёсьць, а кнігамі ніхто не карыстаецца. Часопісь „Паляўнічы Беларусі“ раней зусім ня выпісвалася. Наогул Мазыр па падпісцы на часопіс на самым апошнім месцы, не гаворачы ўжо аб калектывах, аб лекцыях, гуртках і інш. Тут „Іван ківае на Пятруся, а Пятрусь на Івана“, а культработы няма.

Няма тут і соцспаборніцтва, толькі два дагаворы заключаны на соцспаборніцтва між калектывамі. Акруговае т-ва ні з кім не спаборнічае і ў працу ня ўцягнута. На самалёт і ў фонд абароны краіны за ўвесь час існаваньня т-ва сабрана толькі 522 руб. 28 кап., гэта значыць па 24 кап. на паляўнічага. Праўленьне нічога ня ведае аб становішчы падпіскі на 3-ю пазыку індустрыялізацыі. А некаторыя калектывы ў гэтай справе праявілі ініцыятыву (Пятрыкоўскі). Стралковы спорт не разгорнут, а ёсьць добрыя стралкі.

У заключэньні спынюся на рыбалоўстве. Арэндная плата за вазёры „Мозохоты“ вышэй за плату, якая існавала для прыватнікаў. Рыбацкія арцелі арганізаваны карлюковыя—па 4—5 чалавек. Палітыка цэн на рыбу зусім няправільная: ад арцеляў рыба прымалася па ніжэйшых цэнах, чым ад адзіночак, што біла па арцелях і разбурала іх.

**С—оў.**

## Царевна.

**Гр. Ладный.**

Соревнованье
За компанию храпит.
Шита-крыта
Волокита,
А хозяйство там—таго...
И собачки,
Как подачку,
Ждут учета своего.
Из правленья,
Вне сомненья,
Всякий брать в должок привык
*Осипенко,*
*Конопелько,*
*Шнейдер* даже *Боровик*.
Вещи брали,
В счет писали.
Вот задолженность и есть.
Васьки. Пети,
Пети-мети
И набралось тысяч шесть.
Надо, братцы,
Вам признаться
Тут и частник руки грел.
Где ж им деться,
Коль не греться
У таких „хороших“ дел?
Одним словом—
Бестолково
Шло хозяйство, шли дела.
*„Мозохота“*
Без охоты
Эту музыку вела.

# Вынікі праверкі „Мозохоты“ павінны паслужыць урокам для ўсяе сыстэмы

## „Всекохотсоюз“, палепш якасьць прадукцыі.

Віцебскае таварыства паляўнічых атрымала ад „Всекохотсоюза“ па рахунку № 4575|2166 партыю дробнакаліберных патронаў. І вось, хто набыў гэтыя патроны, усе скардзяцца, што яны зусім няпрыгодны, бо ня паляць. Каб гэта не паказалася бязгрунтоўным разгаворам, прывяду два характэрных прыклады.

Паляўнічы Воўкаў купіў каробку патронаў у 50 штук вырабу „Всекохотсоюза“ і пайшоў на спаборніцтвы на кляснага стралка. З усіх 50 патронаў запаліла толькі 9 штук, а 41 штука далі асечку.

Другі прыклад, калі 25|XI-г. г. я сам з гэтай-жа партыі купіў каробку ў 50 штук патронаў, пры стральбе 24 штукі запаліла, а 26 штук далі асечку.

На першы погляд можа здацца, што вінавата вінтоўка, але-ж пры разрадцы патронаў, даўшых асечку, высьвятлілася, што абсалютная колькасьць з іх зусім не снараджана ўзрыўчатай масай, а толькі насыпан порах і ўстаноўлена куля, а ў астатніх патронах знаходзілася ўзрыўчатая маса разьмерам у галоўку іголкі і то, нават, з аднаго якога-небудзь краю гільзы.

Гільзы для паляўнічае стрэльбы таксама кепскае якасьці. Усё гэта кажа аб тым, што або „Всекохотсоюз“ не зацікаўлен у якасьці сваёй прадукцыі, або ёсьць там які-небудзь шкоднік, маючы заданьні псаваць прадукцыю.

Такое зьявішча патрабуе ад нас паставіць гэта пытаньне ва ўсёй сваёй шырыні, зьвярнуць на яго ўвагу адпаведных органаў і ўсёй савецкай грамадзкасьці, каб навучыць „Всекохотсоюз“ лічыцца з дырэктывамі партыі і ўлады і з патрабаваньнямі савецкага спажыўца.

**Кошка М.**

## Соцспаборніцтва не ў пачоце.

*(Віцебск).*

Ва ўсіх галінах нашага жыцьця зараз шырока разгорнута соцспаборніцтва.

Добра разгорнута яно, як відаць з часопісі „Паляўнічы Беларусі“ (№ 7, 11—12 і інш.) і ў паляўнічай коопэрацыі.

Рэчыцкі раённы калектыў выклікаў Барысаўскі на соцспаборніцтва. У іншых раёнах таксама выклікаюць ячэйка ячэйку, паляўнічы паляўнічага.

Але ня так робіць Віцебскае таварыства паляўнічых. Яно не абгаварыла соцспаборніцтва ў некаторых мясцох зусім, а ў некаторых вельмі слаба.

І, нават, ня гледзячы на заключаны „Белкохотсоюзом“ дагавор з ВУСОР'ам, выкананьне якога, бязумоўна, ляжыць і на Віцебскім таварыстве паляўнічых, соцыялістычнае спаборніцтва тут не разгорнута. У акрузе няма ніводнага выкліку на соцспаборніцтва паміж раённымі каляктывамі. Сьпіць акртаварыства, сьпяць раённыя каляктывы.

А ў № 11—12 паведамляецца, што „першы год пяцігодкі паляўнічае гаспадаркі сарваны“. Віна гэтаму—недастатковае разгортаваньне соцспаборніцтва ў паляўнічай коопэрацыі, хаця яно і зараз мала дзе пасунулася ўперад і калі на далей будзе цягнуцца такім тэмпам, то сарвецца і другі год пяцігодкі.

Неабходна Віцебскаму акруговаму праўленьню зараз-жа прыняцца за гэтую галіну працы. Трэба стварыць такія ўмовы, пры якіх-бы самі паляўнічыя ўступалі ў соцспаборніцтва.

Трэба забясьпечыць поўнае выкананьне пяцігодкі.

**М. Кошка.**

## Працы няма.

*(Асіпавіцкі раён).*

Прайшло 8 месяцаў, як організавана падраённае бюро ў Ясенскім сельсавеце, а працы няма і дагэтуль.

А працы непачаты край. Так, трэба выпусьціць насьценгазэту, павесьці барацьбу з драпежнікамі, наладжваць паляўнічую гаспадарку, ахоўваць фаўну і месцы гнездаваньня, вылаўліваць браканьераў.

Непрацаздольнасьць падрайбюро тлумачыцца тым, што Асіпавіцкае бюро каляктыву не падштурхнула яго, а па-другое—дрэнным складам падрайбюро, асабліва яго вярхушкі.

**Буравесьнік.**

## Спажывецкая коопэрацыя жартуе.

Калі браканьер прынясе дабытую ім пушніну ў паляўнічую коопэрацыю,—то ён гэтым пацьвердзіць што ён браканьер. Але тут ёсьць выхад. У Уваравіцкім раёне ён нясе пушніну ў спажывецкую коопэрацыю, а там „валі, давай“. Нават не запытаюцца, хто здае пушніну, білета не запытаюцца. І от браканьеры б'юць ня ў тэрмін зьвяроў, псуюць разбураюць паляўнічую гаспадарку, а каб гэта было „шыта крыта“, спажывецкая коопэрацыя скупляе ў х скуркі зьвяроў.

**С. Карлоўскі.**

## Прытулак для браканьераў.

Васілевіцкае сельска-гаспадар. крэдытнае таварыста другі год падрад зрывае пушныя загатоўкі.

У штаце т-ва ёсьць былы гандляр *Пэклер*, які разьяжджае па вёсках ды скупляе ў браканьераў пушніну. На днях ён купіў 11 скурак вавёрак у браканьераў в. Залатуха яшчэ да тэрміну паляваньня на іх.

Васілевіцкая сельячэйка 28-XI злавіла гэтага скупшчыка на месцы злачынства. Былі перагледжаны квіткі, у якіх аказаліся вымышленыя прозьвішчы. На Пэклера складзен пратакол.

## Ня ведаеш—у другіх запытайся.

Але ня так зрабіла праўленьне „Белкохотсоюза“, калі парашылі выпісаць з за-граніцы рыбалоўныя сеці для задавальненьня рыбалоўнымі сецямі беларускіх рыбакоў.

Ня ведаючы, які асортымэнт патрэбен для беларускіх рыбакоў, узялі ды і выпісалі сеці па сваёй моцнасьці і разьмерах, мала прыгодныя для нашых беларускіх лясіста-травяных вадаёмаў, а частка сецяй амэрыканскай пражы зусім няпрыгодна, але за тое цэны таксама „замежныя“—даражэй, чым у адэскіх спэкулянтаў. Праўда, на бязрыб'е і рак рыба. Прыдзецца выкарыстоўваць тое, што ёсьць. Але доўга будуць вісець у „Белкохотсоюзе“ сеці амэрыканскай пражы, пакуль не пападзецца „морскі“ рыбак.

**Бабчонак.**



# Сабакагадоўля



## НА ШЛЯХОХ САБАКАГАДОЎЛІ.

Упаўне сваячасова і цікава паглядзець, што дасягнута за апошні час у галіне сабакагадоўлі. Аб павялічэньні племяннога матар'ялу гаварыць ня прыходзіцца—яно ёсьць. Што датычыць якасьці, тут вынікі зусім іншыя. Агаварваемся, штэ якасьцямі паляўнічых сабак мы лічым ня толькі тыпічныя, экстэр'ерныя, але і палявыя, бо наяўнасьць апошніх толькі і дае права і падставу паляўнічым сабакам лічыцца такімі, а не пакаёвымі, службовымі ці дэкаратыўнымі.

Каб прыйсьці да якіх-небудзь вывадаў адносна якасных дасягненьняў паляўнічае сабакагадоўлі, у нас маецца адзін спосаб: абкласьціся каталёгамі выставак і справаздачамі судзьдзяў аб палявых спробах. Зараз возьмем лепшых прадстаўнікоў, напрыклад, пароды пойнтэр: такім будзе чэмпіён „Комбиз" Б. В. Ясюнінскага, і паглядзім, што даў нашай сабакагадоўлі гэты праслаўлены і ў выставачнай і ў палявой адносінах вытворца.

Па каталёгах устанаўляецца, што з ім павязана 10 сучак, мусіць, значна больш. Хай агульная колькасьць шчанюкоў будзе 70—80 шт. З ўсяе гэтае колькасьці на палявых спробах выступалі сабакі з вынікамі, паказанымі ў ніжэйпрыведзенай табліцы.

Як вядома, чымп. „Камбиз" мае вышэйшы бал за чуцьцё.

| Навва сабакі | Уласьнік | Год | Хто рабіў спробу | Кляса першапольн. | Кляса шматпольн. | Чуцьцё | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| „Негри" | Яўхімаў | 1926 | Т-ва „Москов. Охотник" | б-д | — | 10 | б-д. бяз дыплёма |
| „ | „ | „ | „ | — | б-д | б-р. | б-р. бяз расцэнкі |
| „Абрек" | Батнёў | „ | „ | б-д | — | 9 | |
| „ | „ | „ | „ | — | б-д | 16 | |
| „Лили" | Сухоцкіна | „ | „ | б-д | — | б-р. | |
| „Дадор" | Пікульскага | 1927 | „ | — | б-д | 10 | |
| „ | „ | „ | „ | б-д | — | 11 | |

З прыведзенай табліцы, складзенай на падставе зусім афіцыйных даных—выданьня да гэтага часу справаздачы судзьдзяў аб палявых спробах—мы бачым, што „Камбиз" не перадаў патомству свайго самага важнага для падружэйнага сабакі—гэта чуцьця.

З справаздач судзьдзяў 2-ой Усерасійскай выстаўкі і 4-ай Чарговай т-вам „Московский охотник" устанаўляецца, што з адзінаццаці запісаных на гэтыя выстаўкі патомкаў „Камбиз" у адчыненай клясе вялікія сярэбраныя мэдалі атрымалі „Негри" Яўхімава і „Мери" Сьмірнова, а ў малодшым узросьце адна „Верди" Сабінскіх, апошнія абмежаваліся малой сярэбранай—„Абрек", бронзавымі і нават „без награды"—„Верда Травіата" Панова. Вынікі незавідныя. З гэтых-жа справаздач мы ўстанаўляем, што адзначаная проф. Лунбергом „прямизна плечей и задних ног" „Камбиза" перадаліся патомству, а вось чуцьцё не перадалася.

Дасьледваньне адносна чэмпіёна „Даниэля" ангельскага сэтэра і чэмпіёнаў ірляндзкіх сэтэраў „Тома", Сукіна і „Тома" Марынушкіна даюць, нажаль, малюнак вельмі складаны.

Мы нарочна ўзялі самых лепшых, самых тыпічных прадстаўнікоў паляўнічых сабак, на якіх можна было-б разьлічаць, як на вытворцаў, як на магутны рычаг для падняцьця сабакагадоўлі. Зараз ад адзінак пярэйдзем да мас.

На ўсесаюзную выстаўку сабак было запісана пойнтэраў 160 шт., з іх палявых пераможцаў 22 ці ў круглых лічбах 14%, ірляндзкіх сэтароў—154 шт., палявых пераможцаў 8 ці 5% і ангельскіх 125 шт., палявых пераможцаў 9 шт. ці 7%. У сярэднім палявых пераможцаў, г. зн. рабочых сабак каля 9% усіх выстаўленых сабак.

Натуральна ўзьнікае трывожнае пытаньне: што-ж ўяўляе сабой 91%? Над вырашэньнем гэтага пытаньня трэба падумаць, і доўга падумаць, бо вырашыць яго раптам, як-небудзь, значыцца неўважаць кроўнае сабакагадоўлі. Правільным вырашэньнем гэтага пытаньня будзе навуковае дасьледваньне і вырашэньне яго на сурова навуковых падставах, г. зн. на падставе гэнетыкі,—навукі аб насьледственнасьці.

**Ю. Румянцаў.**





# Жыцьцё і быт паляўнічага



# Людзі, зьвяры, птахі

Апавяданьне **М. Я. Цэлеша.**

Малюнкі **Г. Змудзінскага.**

Мы едзем шляхам-бальшаком, спавітым кудравымі бярозамі. Сыплецца імжа і буйнымі сьлязьмі коціцца па белай шурпатай кары, а то падае з нявісшага над дарогай гальля і барабаніць па нашых сьпінах. І здаецца плачуць бярозы; плачуць пра тое, што агалелі іх кудры, і зімняя стужа зноў загуляе, закруціць над імі.

Абапал дарогі, куды вокам ня кінь, усё тое-ж жоўта-шэрае апусьцеўшае поле. Толькі на ўзгорках чырвона-зялёнымі істужкамі красуецца рунь. Гэта сяляне з вёскі Сомры, яшчэ не ўвайшоўшыя ў калгас, пазасеялі свае „матузкі“.

Пазасеялі! Якое тут сяяньне?

От выйдзе дзядзька з сівалкай, параскідае з рукі зерня, пройдзе па-верху бараной, скіне шапку ды пераксьціцца, саломкі пучок разгорне ў канцы, прыцісьніць яе камянём, каб вецер ня зьнёс—і „расьці“.

От так і расьце!

І сумна ў полі ўвосень, ціха. Толькі вецер гуляе па ім, сьпявае свае нудныя песьні—шуміць на дубровах лісьцём, зрывае яго і зьмятае ў кусты.

Эх, мінавала залатая пара, пракацілася жніво і замёрла жыцьцё.

Сумна ў полі ўвосень, а на душы неяк весела.

Весела ад таго, што хутка вецер разгоне, разьнясе тыя хмары, што віселі тут над полем вякамі—сум наганялі, і сонца будзе кідаць залатыя праменьні. Тады падарожнік не засьне ўжо ў драбінах ад суму. Папаўзуць, затрашчаць, закрэкчуць калены сталёвых чарапах, зруйнуюць узгоркі з балотам і зазелянее навокал. Мы ідзем шляхам. Бярэм перавал за перавалам, узгорак за ўзгоркам. Конік Макара трусіць дробнай рысьсю і пырскае ў ноздры. Гэта першая адзнака стомленасьці. Калёсы паціху коцяцца па ўбітаму дажджом пяску, які добра адбарабаніў у мінулую ноч.



... Мы едзем шляхам. Бярэм перавал за перавалам.

Сам Макар, худаваты дзядзька, год пад шэсьцьдзесят, неяк крукам сядзіць на дошцы, прыбітай да драбін замест козел і штомінутна панукае на свайго белагрывага.

Макар—палкі паляўнічы і добры таварыш. Ён некалькі разоў прыязджаў у горад і прасіў прыехаць да яго на паляваньне, пагутарыць аб тымсім. Макар быў добра пісьменны і ўмеў гаварыць.

Я з Макарам пазнаёміўся яшчэ ў дваццатым годзе, калі полк наш праходзіў праз іх вёску. Жыў Макар бедна і сябе называў актыўным бедняком. І сапраўды, Макар быў актыўны бядняк, бо ніколі не багацеў, а ўсё бяднеў і бяднеў.

Едзем мы доўга і ціха. Ціха плывуць і хмары па небу. Толькі гусі сьпяшаюцца ў вырай і радкамі нясуцца на Поўдзень. Нясуцца, гагочуць, гамоняць з сабой. Вось яны наляцелі на вёску: нехта стрэліў там і гусі зьмяшаліся, аблятаюць вёску. Бедныя птахі! Колькі загіне вас у дарозе—цяжкі ваш шлях!

Сыплецца імжа, хмарна. Хочацца спаць. Але з Макарам не засьнеш. Макар ня любіць маўчаць, а тут „Флейта“ з сынам „Рыдаем“, нашыя ганчакі, скруціліся ўперадзе і даваць на ногі.

Мой сябра па паляваньню, тоўсты, сіваваты чалавек, палкі паляўнічы і „аматар прыроды“, накрыўся плашчом і заснуў. Коцяцца калёсы, скачуць з калдобіны, ў калдобіну кідаюць нас у бакі, хрыпіць сябра ў плашчы і яго акуляры ў роговай оправе, якія ня ўмяшчаліся на твары, то падымаюцца ўверх, то зноў спаўзаюць на пасінеўшы ад стужы нос.

Мы ўзьязджалі на ўзгорак. Макар неяк асаблівa, па-свойму прычмокнуў на белагрывага і сьцегануў яго пугай. На мокрай поўсьці каня лег сьвежы рубец. Конь махнуў хвастом, але ходу ня прыбавіў.

— От адразу відаць, што сябра твой здаравей за майго каня. Такое надвор‘е паганае, а ён сьпіць, як пшаніцу прадаўшы,—зьвярнуўся да мяне Макар.

— Гэта праўда,—сказаў я. Чалавек ён здаровы. Калі босай нагой ня ступіць на накалены сонцам пясок, калі птушка і зьвер хаваюцца ў кусты, калі лісьце вяне ў поўдзень, ён цэлы дзень праходзіць па балоце за качкай—і нішто. Ён здароў, бо ня быў на вайне, гора ня бачыў, жыў „сабе на здароўе“, падалей ад жыцьця, паляваў, страляў дупялёў.

Мы скаціліся ў лагчыну. Абапал шляху, як стада сьвіней, завіднелася чорнае куп‘е, а між імі пучкамі колкі сівец.

Колкі сівец! І сапраўды колкі. От бывала, як малым яшчэ быў, панясеш бацьку сьнедаць на „сіўцы“, бо скасіць іх трэба ўраньні, з расой. Прынясеш. Бацька лаецца, праклінае колкі сівец, што каса не бярэ. Клепя касу, раз-за-разам трыпышкай паводзе па ёй, а сівец ня рушым, хоць грызі. Тады бацька грабілнам мяне, нібы я сівец парасьціў. Кепска жылося—сказаў я.



... От, бывала, як малым яшчэ быў, панясеш бацьку сьнедаць...

— Так, кепска!—адказаў Макар.—А каб больш так ня было, па-новаму трэба жыць. У калгас трэба ісьці. Трактарам, сеялкай, жнейкай кіраваць навучыцца: аднаму „індзюку“ [1]) не пад сілу ўскапаць сіў-

---

[1]) Індывідуальная гаспадарка.

цы, канюшынай засеяць; зьнішчыць межы, што травой зарасьлі, сабраць у адзін кавалак рэзкі-істужкі, што мы бачылі раней па ўзгорках. І калі мы ня зробім гэтага, то праз некалькі год—верная пабібель сельскай гаспадарцы. Але я веру, што мы пераможам!

Макар змоўк. Паклаў вожкі і пугу сабе на калені, абцер рукавом намякшыя вусы і, падумаўшы, нібы з заклікалньнем, нібы з злосьцю дадаў:

— Ёсьць недаверкі, якія ня вераць у моц калгасаў? А хіба можна жыць мала-мальскі па чалавечаску на такіх „матузах“ ды з адным канём усю зіму на колкім сіўцы?



... Я выняў бінокль і навёў на бярозы...

І Макар паглядзеў на свайго беларгрывага. Потым нібто кахаючы, нібто з ненавісьцю, сьцебануў яго па ляшках.

— От хоць бы і наша вёска: пяцьдзесят двароў, дзьвесьці гектараў з гакам зямлі, а з іх толькі сто дваццаць „удобіцы“, а апошняя ўся пад балотам. Ну, вядома, інасыпаліся ў калгас, толькі тры двары забаламуцілі; ды іх ня ўзялі-б у калгас. Ды што глядзець на іх, гэта пэўныя „індзюкі“, плоцяць падатку рублёў па пяцьсот. От, нябось, парабілі-б так, як бядняк, дык іначай было-б. Ато што, машына ды батрак робяць за іх.

Плюнуў Макар і пугай махнуў на каня.

— Калгас... Калгас добра ўсюды. От паляваньне здаецца, справа пустая, цяпер прагулкай у нас, а калгасам карысьць. Трусоў можна разводзіць, курапатак і розных птахаў расьціць ды і іншых зьвяроў лепш скарыстаць, а то дзе-ж—Макар сабе, Пятрок сабе, Рыгор сабе і разам нікому. Ад таго і дзічы няма. Дзе-ж яна будзе? Тады былі паны, цяпер хутар, адрубак, сабакі зьнішчаюць. Дзе-ж дзявацца зайчонку, дзічынцы?..

Тут Макар змоўк, абцёр нос і саскочыў з калёс.

Мы праязжалі балота. „Флейта“ з сынам махнулі ў кусты і ўзагналі двох чыронкаў. Не пасьпеў я стрэльбу з возу схапіць, як чыронкі са сьвіста крылаў пранесьліся над намі і зьніклі ў кустах. Абапал дарогі жоўтая твань і ганчакі, калі зноў вылязалі з балота, увязьлі па вушы.

Я выняў цыгаркі і пачаставаў Макара. Пахучы дымок клубкамі вырываўся з нашых іртоў і плыў у паветры, слаўся шоўкавай тканінай на мох. Конь хлюпаў па калена ў гразі і з патугай калёсы валок. Яны скакалі з калдобіны ў калдобіну, а потым заселі па трубкі ў канаве. Конь спыніўся. Макар падайшоў да калёс і стаў падпіраць, каб падсобіць каню. Я дапамог Макару. Конь біў у хамут, а калёсы стаялі на месцы. А мой сябра ўсё спаў і храпеў.

Ну конік, ну!—і мы з ўсёй сілай напёрлі на калёсы. Калёсы стаялі на месцы, нібы ўмерзьлі ў гразь. Я не ўцярпеў і крыкнуў са злосьці:

— Ды ўстань-жа ты! Мядзвежай хваробай захварэў, ці што? І так пудоў дваццаць на возе, а з табой добрых дваццаць пяць.

Таварыш падняўся і зьверху ўніз паглядзеў на мяне праз свае акуляры, як прафэсар глядзіць на вучня сямёхгодкі. Мы ўсе разам падсабілі каню і калёсы выскакнулі з грязі.

— От бачыш? Дарогі не згаварыцца, наладзіць, а ня то што балоты сушыць. А хіба так будзе ў калгасе?—і Макар зноў „панёс“ пра калгасы, нібы капала яму за каршэнь.

Конік Макара ўжо добра стаміўся і мы едзем памалу. Дзесь балтаў цецярук. На далёкіх бярозах у балоце сядзелі, чуць відаць, чорныя птахі.

Я выняў бінокль і навёў на бярозы. Там важна сядзелі цецярукі, закрыўшы чырвоныя бровы. Вось адзін комам зьляцеў ўніз. Было гадзін восем і птахі рыхтаваліся нанач. Я перавёў бінокль на балота. Бярозкі, кусты лазы ды ракіты ў адну недзялімую гушчу спляліся і больш нічога ня відаць ў бінокль.

Эх, балота! Шкада раставацца з табой паляўнічаму, але прыдзецца, бо хутка ўзрыюць цябе, парушаць векавыя пласты тваіх нетраў: замест качак гарбузы парастуць, замест бэкасаў—агуркі, „Шарак касавокі“ той уцалее ды будзе частавацца салодкай капустай.

— А скажы, Макар, ці шмат было дзічы раней? Ці многа ты пабіў яе тут?

Макар абярнуўся да мяне і пачаў:

— У лютую гадзіну, тады, калі на нашай зямлі сядзелі дармаеды-магнаты і нагайка гуляла па худых нашых сьпінах, а карак балеў ад работы—я быў батраком у маёнтку—ня было ахвоты паляваць, хоць з маленства кахаў я прыроду, бо доўга быў пастухом. Пасьля, калі я зрабіўся гаспадаром, хутчэй не гаспадаром, а нявольнікам сваёй гаспадаркі, бо якая ў мяне гаспадарка? Тады гэта балота належала да маёнтку нейкага старога генэрала. Генэрал памёр якраз перад вайной, пакінуўшы маёнтак генэральшы і дачцы. Дзічы на гэтым балоце, вядома, было шмат, бо біць нікому не дазвалялася, за выключэньнем тых, хто быў аднаго кодла з імі. Адзін толькі раз я паляваў на гэтым балоце, ды і то мяне ўбачыў лясьнік і сказаў генэральшы. А яна перадала станавому прыставу, які карыстаўся вялікай пашанай ў маёнтку, бо кахаўся з дачкой генэрала.

Тут Макар змоўк, нібы нешта засела ў горле, кашлянуў і зноў пачаў:




... Недалёка ад іх у неба ўпіралася антэна...

— Дык вось. Праз тыдні два я сядзеў на двары і плёў лапці. Моцна сонца пякло і вецер падымаў клубы пылу, круціў, завываў, хоць хмар і ня было. Чаплялася воблака за воблака, так што к поўдню на Захадзе вырасла чорна-сіняя хмара. На двары сохла сена. Кінуў лапці, я стаў зносіць сена ў пуню. Але раптам загрукацела. Я падумаў што гром. Аж гром — ды ня той. Да хаты пад'ехаў на панскіх калёсах станавы; ды такі быў кат! Абы папаўся яму за што-небудзь — абдзярэ як ліпку. Ну, думаю, прапаў... Капаўся, пароўся станавы — усё перавярнуў, але пістаноўкі не знайшоў, бо я пхнуў яе ў страху. А тут дождж паліў, як з вядра. Станавы затрымаўся ў мяне. Я забыўся пра сена, і давай яго за балючае месца шчыпаць, выпадкі паляўнічыя апавядаць. А я майстра на гэта, прыроду каханю і выпадкаў ведаю шмат. А станавы быў палкім „паляўнічым" за ўсякай дзічынай. Ну, і п'яніца быў, падлюка. Наш настаўнік казаў так — „У яго тры ідэі — жанчына, гарэлка і паляваньне. Я чацьвертую дабаўлю — біць морды сялянам. Дайка цыгарку смагу прагнаць!" — раптам абарваў апавяданьне Макар.


... Увайшла Макрына з даёнкай...

Я падаў цыгарку і Макар пачаў зноў.

— Гаварыў тады я шмат станавому, а ён п'яны сядзіць ды круціць вусы, а потым і кажа: — „Ну, добра. Прынясі мне штук пяць глушцоў, і болей не хадзі на балота". Нічога ня зробіш з начальствам. І от давай я хадзіць раніцамі ў казённы бор. Знайшоў вывадак і аднёс станавому чатыры глушцы. Так я і адкупіўся, але на балота больш не хадзіў.

Мы ўзьехалі на курган. Недалёка ад дарогі, па над возерам завідненіся разваліны старых будынкаў. Там, дзе печы былі, засталася толькі куча гліны, а па ёй парасла лебяда з бур'яном. Да слупа быў прывязаны цялёнак. Калёны гасьцінных адзінока стаялі і глядзелі ў прастор. Недалёка ад іх ў неба ўпіралася антэна і нацягнутыя драты падпіралі яе і гудзелі ў паветры як струны.

— Вось тут і было іх гняздо, тых генэралаў. Бура пранеслася і тут і разьнесла, разьбіла на кавалкі нечысьць. А зараз тут гняздо працы і культуры. Батракі былога генэрала зрабілі камуну.

Мы мінавалі сялібу камуны і Макар, пачасаўшы карак, пачаў зноў пра станавога.

Так і загінуў ён па-дурацку на балоце генэральшы. А здарылася так: быў ліпнеўскі дзень, здаецца дзень „Пятра і Паула". Сонца паліла страшэнна. У паветры гудзелі казяўкі ды пчолы. На небе ласкутамі плылі воблакі, але ветру ня было. Птушкі пахаваліся ў кусты ды ў траву і, здавалася, замёрла жыцьцё на балоце. Цішыню парушалі толькі стрэлы і дымам пакрылася балота. То страляў лапуноў станавы з сваёй хэўрай. Пастралялі тады яны шмат, і шмат жызьняй птушыных загубілі. Але не абышлося ім гэта за дарма. Пачалі яны ад радасьці піць ды пабіліся аб заклад на ўсю дзіч, чыя стрэльба далей данясе. Станавы абпёрся на стрэльбу грудзьмі і чакаў, пакуль стрэле таварыш. А стрэльба была ў яго бяскуркоўка. Раздаўся стрэл і сабака станавога, які ляжаў ў цяньку пад кустом — на грудзі яму; мусіць думаў, што стрэліў станавы па дзічы. Тут раздаўся яшчэ стрэл і станавы пакаціўся без адзнакаў жыцьця. На грудзях была дзірка з шапку; увесь зарад угадзіў яму.

Макар сплюнуў і дадаў:

— Туды і дарога яму. Вельмі драў з сялян скуру!

Ужо пацямнела. Мільгацяць агенькі і вабяць да сябе. Недзе брэшуць сабакі. Надакучыла ехаць і хочацца есьці. Макар, нібы зразумеўшы мае думкі бяз слоў, падагнаў каня і сказаў:

— От і Сомры ўжо. Хутка будзем і дома, адпачнем да заўтрашняе раніцы, а там, глядзі і надвор'е наладзіцца. Бачыш, як Захад пабялеў? Ды і маладзік сёньня настаў: гэта першая адзнака перамены надвор'я.

Я ня мог зразумець, адкуль ведаў і чаму верыў Макар у маладзік і ў пабялеўшы Захад, як у зьмену надвор'я. Тымчасам маладзік, хоць і настаў, але плыў ён у хмарах.

Доўга ехалі вёскай. Мільгацелі ў вокнах агні. У падваротнях брахалі сабакі.

— От і прыехалі. Тпр-р-у! Зачапіўся за шулу, каб цябе зарэ-э-з-а-а!

Мы зьлезьлі і пайшлі ў хату.

— Ідзі сюды, Макрына! Чаго выглядаеш як зьвярына-дзічына з-за вугла. Пасоб от! — нёсься голас Макара.

Макрына падайшла да возу і дапамагла Макару адкінуць калёсы.

Мы ўвайшлі ў хату і пачалі распранацца. Мэблі ў хаце Макара ніякай ня было і мы свае рэчы пакідалі дзе папала.

— Вот табе і хунт... Апошнюю авечку ваўкі... От і вядзі гаспадарку, а-н-у-у яго... Якое гэта жыцьцё? От зарэза... А-а-х!

Увайшла Макрына з даёнкай. Працадзіла малако, падклала на комін і спарыла малако. Наліла дзьве шклянкі і, паставіўшы перад намі, палезла ў студнік за хлебам.

Мой сябра, да таго не ўяўляўшы сабой жывога чалавека, ачуняў адразу, носам пачуўшы яду. Ён палез ў сваю торбу, жываты якой раздуваліся ад харчоў.

Мне захацелася паесьці сытней і я выйшаў купіць яек і сала для яешні, бо з сабой нічога ня ўзяў, а ў Макаравай хаце такой роскашы не вялося. У хаце насупроць гарэла цяпло. Я накіраваўся туды. Адчыніўшы дзьверы, я папаў ў пусты пакой. Пайшоў далей. Яшчэ адны дзьверы, а за імі сьвятліца. На стале самавар шумеў. За сталом пацеў дзядзька за гарбатай і жанчыны са дзьве. У хаце чыста, памыта падлога. Па кутках дываны стаяць, а над імі абразы ў вышываных рушніках.

Я ступнуў уперад, сказаў хто такі і прычыну наведаньня аб'явіў. Дзядзька выслухаў, шклянку з гарбатай паставіў на стол, выцер пот рушніком і, склаўшы рукі над жыватом, стаў круціць палец аб палец. Я стаяў перад ім, як слуп на вярсьце. Яго тоўсты твар расплываўся ва ўсьмешку. Агідна блішчэлі маленькія вочы і, здаецца, абдавалі агнём.

— Есьці захацеў? Пакарміць цябе, галадранца пачаставаць? Чаго-ж ты няйдзеш у калгас, к батраку.

*(Канец будзе).*



# Аружэйная тэхніка



## ПАЛЯЎНІЧАЯ СТРЭЛЬБА.

У залежнасьці ад спосабаў заражэньня паляўнічыя стрэльбы падзяляюцца на дзьве асноўных групы—стрэльбы шомпальныя, якія заражаюцца з рулі і стрэльбы, якія заражаюцца патронамі з казённай часткі стрэльбы.

Шомпальныя стрэльбы заражаюцца з рулі бяз усякіх прыспасабленьняў: адмерваецца зарад пораху і ўсыпаецца ў ствол, затыкаецца якім-небудзь пыжом з дапамогай шомпалу, зьверху засыпаецца адпаведны зарад шроту і зноў запыжваецца. Пасьля гэтага надзяваецца на брондтрубку пістон і стрэльба гатова да стрэлу.

Перавагі шомпалаўкі наступныя: 1) крэпкасьць яе, бо зарад загараецца і згарае ў камеры ствалоў, зробленых з аднаго цэлага кавалка жалеза, бяз усякіх замацаваньняў, якія патрэбны ў кожнай казназараднай стрэльбе, 2) адсутнасьць карыстацца гільзамі, 3) лёгкасьць, 4) дзешавізна як самой стрэльбы, так і прыпасаў да яе, 5) простасьць заражэньня і 6) звычайна добры бой, які бывае ад тых самых прычын, што і крэпкасьць шомпалаўкі.

Да ліку недахопаў шомпалавак трэба аднесьці: 1) маруднасьць заражэньня (недастатковая скорастрэльнасьць) і немагчымасьць хуткай перазнарадкі, 2) лёгкая даступнасьць сырасьці да парахавога зараду, 3) частыя асечкі і зацяжныя выстралы, 4) небясьпечнасьці пры ўжываньні яе.

Усе гэтыя недахопы, ня гледзячы на наяўнасьць цэлага шэрагу добрых бакоў шомпалавак, выклікалі скарачэньне ўжываньня ўсіх іх тыпаў і пераход да стрэльбаў, якія заражаюцца з казённай часткі.

У процівалегласьць стрэльбам, якія заражаюцца з рулі, патронныя ці інакш, казназарадныя, патрабуюць для страляньня апроч пораху, шроту пыжэй і пістона—гільзы. Гільза мае ў задняй сваёй частцы (дне) камеру для ўстаўляньня пістону. Яна начыняецца порахам, пыжом; шротам і зноў пыжом—тады гільза называецца патронам. Патрон закладаецца ў так званы патроньнік ствала казназараднае стрэльбы. Пасьля гэтага стрэльба зачыняцца, узводзіцца курок—і можна страляць. Пасьля стрэлу даволі зноў адчыніць стрэльбу, выкінуць стрэляную гільзу, уставіць на яе месца патрон—і можна зноў страляць.

З тае прычыны, што казназарадныя стрэльбы зарараджаюцца заранеў прыгатаванымі патронамі і заражэньне адбірае ўсяго адну—дзьве сэкунды, яны зьяўляюцца куды больш скарастрэльнымі, чым любая шомпальная стрэльба, а магчымасьць хуткай перамены аднаго патрона другім робяць іх больш зручнымі для паляўнічага.

Першай казназараднай стрэльбай была стрэльба сыстэмы „Лефашэ“, якія як рэдкасьць і зараз яшчэ сустракаюцца ў некаторых паляўнічых.

Стрэльбы Лефашэ заражаюцца патронамі, у якіх збоку прыдзелан баёк. Даволі ўдарыць па гэтаму байку, як успламяняецца зьмешчаная ўнутры гільзы ўзрывучатая маса.

Адзінай перавагай гэтых стрэльбаў зьяўляецца іх здольнасьць заражацца гатовым патронам і, такім чынам, большай, чым шомпалаўкі скарастрэльнасьцю. Але недахопаў у гэтай сыстэме так шмат, і яны такія вялікія, што ўжо да вайны гэтыя стрэльбы сустракаліся нават радзей, чым крэмневыя шомпалаўкі, і дастаць гільзы да іх было вельмі цяжка. Галоўныя недахопы гэтых стрэльбаў у тым, што яны вельмі небясьпечны пры ўжываньні: даволі лёгка ўдарыць па шпільцы, якая тырчыць з гільзы, і атрымаецца стрэл.

Усьлед за сыстэмай стрэльбы Лефашэ зьявіліся і іншыя сыстэмы казназарадных стрэльбаў, з якіх самай мэтазгоднай аказалася сыстэма стрэльбы *цэнтральнага бою* (цэнтралка). Назва гэта ўтварылася ад таго, што стрэльбы гэтай сыстэмы заражаюцца гатовым патронам з пістонам, які зьмешчан ў цэнтры днішча патрона і прытым так, што сноп агню, які запальвае порах, урываецца ў цэнтр парахавога зарада. Гэта сыстэма зараз зьяўляецца самай распаўсюджанай і найбольш мэтазгоднай.

Усьлед за зьяўленьнем першых стрэльбаў з адным ствалом, з якіх другі стрэл можна зрабіць толькі пасьля другой зарадкі, пачалі зьяўляцца і першыя *шматстрэльныя* стрэльбы. Пажаданасьць, а то і проста неабходнасьць мець магчымасьць без перазаражэньня стрэльбы зрабіць адзін за адным два, а то і больш, стрэлаў, была хутка ўяўлена чалавекам, і першай спробай у гэтым напрамку, само сабой зразумела, зьявілася патрэбнасьць у адной стрэльбе, але з некалькімі стваламі, інакш гаворачы аб'яднаньне ў адну стрэльбу дзьвюх ці больш стрэльбаў.

Такім чынам зьявіліся першыя двохстволкі, трохстволкі, чатырохстволкі і інш.

Але вядома, стрэльба, маючая не адзін, а два ці некалькі ствалоў, была значна цяжэй і менш зручней на паляваньні, чым аднастволка і пагэтаму зараз, толькі двохстволкі, як шматстрэльныя стрэльбы, заваявалі сабе пераважнае становішча і то, дзякуючы толькі таму, што з прычыны палепшаньня якасьці матар'ялу, з якога яны зараз робяцца, іх вага не перавышае вагу зручнага для носкі і стралянья ружжа.

Трохстволкі, якія маюць усе тры ствалы гладкія (для шроту), зараз можна бачыць толькі выпадкова, а чатырохстволак і больш з гладкімі ствaламі ня сустракаецца зусім.

Сучасныя трохстволкі, прызначаныя для стралянья шротам і маючыя гладкія ствалы, рабіліся і робяцца з ствaламі або распаложанымі адзін на адным, або са ствaламі, распаложанымі радам адзін каля аднаго.

Разам з двохстволкамі і аднастволкамі за апошнія гады зьявіўся і цэльны шэраг магазынных стрэльбаў, уяўляючых сабою звычайную аднастволку, але з асобным памяшканьнем для аднаго або некалькіх патронаў (ад 1 да 5), апроч зьмешчанага непасрэдна ў патроньнік. Пасьля стрэлу з гэтага па-

памяшканьня, называемага магазынам, запасныя патроны падаюцца ў патроньнік пры дапамозе руху рукой падсобнага рычага, пасовачнага цэўя або, ўрэшце, сілай стрэла (аўтаматычна), папярэдне аслабанаючага патроньнік ад стрэлянай гільзы.

Да ліку магазынак, якія дзейнічаюць з дапамогай рычага, належыць магазынка сыстэмы Вінчэстэра; магазынкі з пасовачным цэўём робіць Вінчэстэр і Рэмінгтон. Аўтаматычныя магазынкі, якія самі перазаражаюцца, робяцца шмат якімі фірмамі па сыстэме Вінчэстэра, Браўнінга і інш.

Апроч паказаных вышэй сыстэм магазынак, нядаўна зьявіліся яшчэ магазынкі (з магазынам на 1—2 і больш патронаў), перарobленыя з маўзерскіх, макліхараўскіх і рускіх трохлінейных баявых вінтовак, у якіх перамена патрона ўтвараецца рухам рукі па затвору. (Таксама, як перамена патрона ў нашай трохлінейцы).

З таго часу, як для большай меткасьці стральбы куляй сталі вырабляцца стрэльбы з простым і вінтавым нарэзамі ў сярэдзіні канала ствала, гладкаствольныя стрэльбы апынуліся, галоўным чынам, у стрэльбы для шроту, бо меткасьць іх і разбураючая дзейнасьць уступае нарэзнаму аружжу.

Нарэзныя-ж стрэльбы аказаліся зусім няпрыгоднымі для стральбы шротам і пагэтаму паляўнічаму, які мае патрэбу ў стрэльбах, як для страляньня шротам, так і куляй, прыходзіцца браць з сабой дзьве стрэльбы. Але з прычыны няручнасьці браць з сабой дзьве стрэльбы і ў той час немагчымасьці замяніць вінтоўку гладкастволкай, а гладкастволку вінтоўкай, аружэйнікамі было прапанована шмат стрэльбаў тыпаў „комбинированного оружия", г. зн. якія саўмяшчалі-б у сябе і вінтоўку і гладкастволку.

Усе сыстэмы, да сучаснага моманту, прапанаваныя аружэйнікамі, тыпаў „комбинированного оружия", можна падзяліць на два асноўных тыпы: першы з іх ахоплівае тыя тыпы стрэльбаў, якія робяцца адначасна і для страляньня куляй і для страляньня шротам; г. зн. адзін ствол нарэзным, а другі гладкім. Другі тып гэтых стрэльбаў уключае ў сабе тыя сыстэмы, якія робяцца з ствaламі для страляньня куляй і адначасна з гэтых-жа стваловў для страляньня шротам.

Двохствольныя куляшротавыя стрэльбы, называемыя „бюксфлінтам" або „штуцэрам", маюць адзін ствол нарэзны, а другі гладкі. Ствалы распалагаюцца або радамі адзін з адным (звычайны бюксфлінт) або адзін пад другім (т. зван. бок бюксфлінты), галоўным чынам, у залежнасьці ад калібра нарэзнага ствала. Трохстволкі ці трайнікі звычайна маюць на версе два гладкіх, як у звычайнай шротавай двухстволкі, ствала, а зьнізу адзін нарэзны. Бывае, што нарэзны ствол робіцца ня зьнізу пад парай шротавых, а зьверху іх.

Чатырохстволка мае звычайна дза ствалы гладкіх, і два нарэзных рознага калібру. Гладкія ствалы распаложаны радам адзін каля аднаго, а нарэзны, больш дробнага калібру, распалагаецца зьверху гладкіх стваловў, а больш буйны зьнізу гладкіх. Бывае між іншым, што чатырохстволка мае ўнізу або ўвярху два для шрота ствалы, а ўвярху ці ўнізу— два нарэзных.

З ліку некалькіх сьвярловак, робячых стрэльбу прыгоднай і для страляньня куляй і для страляньня шротам, найбольш вядомы: сьвярлоўка „Парадокс", сьвярлоўка „Вестлей—Рычардса", якая робіцца ў стрэльбах маркі „Фавнетта" і „Эксплора", авальная сьвярлоўка Ланкастэра і інш.

Сутнасьць „Парадокса" зводзіцца да таго, што ствол робіцца амаль што гладкі ўвесь і толькі на некаторай адлегласьці ад рулі нарэзным.

**Н. М.**

*(Канец будзе).*



Група Мсьціслаўскіх паляўнічых (Аршаншчына) учыніла аблаву на шалёных і бадзячых сабак. За некалькі гадзін было забіта 50 сабак.

## Двухстволки Тоз

В Москве теперь чаще стали попадаться в продаже двухстволки Тоз, стандартного образца, кал. 16, замки подкладные, затвор Гринера. Розничная цена понижена: продаются по 120 р. Напомню, что в начале сезона эти же ружья, перепродаваемые из вторых и третьих рук, были дороже 150 р.

Работа и бой двухстволок Тоз остаются попрежнему вполне удовлетворительные. Такое снижение цен можно лишь приветствовать. Ведь бедному охотнику выгоднее купить новую „тулку", нежели приобретать разный старый хлам из „бывших ружей" низких заграничных сортов.

Изредка попадаются и двухстволки заграничные Пипера (бельгийские) по 135 р., Зауэра (германские) по 145 р. И те и другие курковые, замки укороченного образца, затвор Гринера, но у Пипера стволы соединены по системе „деми—блок" (механическое соединение, без медного припоя), у Зауэра—припоем.

## Новые Ижев-Джонсоны.

Как известно, одноствольные „переломки", изготовленные по усовершенствованной системе американских ружей Ижев-Джонсон, выпускаются нашими заводами под кличкой „Ижев-Джонсон".

В настоящее время выпущены в продажу новые Ижев-Джонсоны той же системы, что и прежние, но вместо 20-го калибра—12 калибра; 20-ый калибр тоже изготовляется.

Джонсоны 12-го калибра все хорошей работы, пригодны для стрельбы сильными зарядами, но сверловка стволов, к сожалению, только цилиндрическая. Продаются эти ружья в Москве по 45 р. (магазин Воен. Об-ва охоты, Кузнецкий мост). На стволе клеймо „Ижевские оруж. и сталеделат. заводы", год, номер и калибр ружья.

**В. Е. Маркевич.**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Аб забароне паляваньня на выдру.

Пастановай Наркамземляробства БССР ад 5 лістапада 1929 году, зацьверджанай 14 сьнежня 1929 г., ЭКАНА забаронена паляваньне на выдру і гандаль сьвежа зьнятаю з яе скураю па ўсёй тэрыторыі БССР на адзін год.

## Якія заказьнікі зацьверджаны Наркамземам БССР

*на 1-е студзеня.*

### Аршанская акруга.

1. Сафіяўская лясная дача Дзевінскага лясьніцтва на плошчы 3407 *га* з 1 сьнежня 1928 г.

2. Прылесінская лясная дача вурочышча Муравенка па рацэ Проні плошчай 190 *га* (на баброў з забаронай усялякага паляваньня і рыбнай лоўлі) з сакавіка 1928 г.

### Віцебская акруга.

3. Стрыжаўская лясная дача Бешанковіцкага лясьніцтва на плошчы 4641 *га* з 1 чэрвеня 1929 г.

### Полацкая акруга.

4. Прыдзьвінская лясная дача Полацкага лясьніцтва на плошчы 2500 *га* з 15 сьнежня 1928 г.

5. Мала-Далецкая і Пуцілаўская лясныя дачы Далецкага лясьніцтва на плошчы 2375 *га* з 15 сьнежня 1928 г.

6. Якубоўская лясная дача Клясьціцкага лясьніцтва і Шадурская лясная дача Юхавіцкага лясьніцтва на плошчы 5452,9 *га* з 15 кастрычніка 1929 г.

### Магілеўская акруга.

7. Крапівенская лясная дача Панькоўскага лясьніцтва на плошчы 1925 *га* з 20 лістапада 1929 г.

### Мазырская акруга.

8. Белабярэжская лясная дача Мухаедаўскага лясьніцтва на плошчы 4200 *га* з 15 сьнежня 1929 г.

### Бабруйская акруга.

9. Жортаўская лясная дача з лясной дасьледчай станцыяй (вур. Дуброва) Лапіцкага лясьніцтва на плошчы 6173,76 *га* з 1 жніўня 1928 г.

10. Вязкая лясная дача Вязкага лясьніцтва на плошчы 4694,63 *га* з 1 жніўня 1928 г.

11. Вязаніцкая лясная дача Вязкага лясьніцтва на плошчы 4365,45 *га* з 1 жніўня 1928 г.

## Пастанова.

1929 г. Сьнежня 20 дню. У мэтах захаваньня і павялічэньня паляўнічай фауны і згодна пастановы ЭКАНА ад 17|VI-29 г. Народны Камісарыят Земляробства пастанаўляе:

Арганізаваць паляўнічы заказьнік у Белабярэжскай дачы, Мухаедаўскага лясьніцтва Мазырскае акругі, на плошчы 4200 *га*, тэрмінам на 5 год, пачынаючы з 15 сьнежня 1929 г. па 15 сьнежня 1934 г. у наступных межах:

Пачатковы пункт—стык 23-33 і 34 кварталаў. Ад слупа, адзначаючага гэты пункт на ўсход па квартальнай прасецы паміж кварталамі 23-34, 24-35, 25-36, 26-37, 27-38. Далей па мяжы з сенажацямі гр-н вёскі Белы-Бераг і Белабярэжская Рудня, уключаючы ў заказьнік землі сельска-гаспад. карыстаньня, да слупа паміж 29-30 кварталамі, адкуль мяжа паварачвае на поўдня і, прасякаючы сенажаць гр-н вёс. Белы-Бераг і Белабярэжскай Рудні, праходзіць па квартальнай прасецы паміж 50 і 51 кварталамі, далей цераз сенажаці гр-н сяла Мухаеды і Храпунь па ўсходняй мяжы 83 і 95 квартала і квартальнай прасецы паміж 95 і 96 кварталамі да мяжы Белабярэжскай і Мухаедаўскай дачы. Адсюль на захад па мяжы гэтых двух дач да квартальнага слупа 88-89 кв., які зьяўляецца канчатковым пунктам паўднёва-заходняй стараны заказьніка. З гэтага слупа мяжа ідзе на поўнач па прасецы паміж кварталамі 88-89, 76-77, 66-67, 56-57, 43-44 і 33-34 да канчатковага пункта.

На землях сельска-гаспадарчага карыстаньня, якія знаходзяцца ў межах заказьніка, паляваньне забараніць.

Даручыць лясьнічаму Мухаедаўскага лясьніцтва вызначыць межы ў натуры пастаноўкай адметных слупоў, згодна маючыхся ўказаньняў.

**Нам. Наркамземляробства МАСЮКОЎ.**
**Нам. Загад. Лясного Кіраўніцтва ПЯТРУШЫН.**

## Пастановы НКЗБ ад 20 сьнежня 1929 г.

Арганізаваць паляўнічы заказьнік у Стрыжаўскай дачы, Бешанковіцкага лясьніцтва, Віцебскай акругі тэрмінам на 5 год з 1|VI-29 г. па 1|VI-34 году на плошчы 4641 *га* ў наступных межах.

Пачатковы пункт—стык меж землякарыстаньня вёсак: Забор'е, Быцова і Стрыжэўскай дачы; адсюль мяжа заказьніка ўстанаўляецца па мяжы дзяржлесфонду і землякарыстаньня вёсак: Быцова-Саўрасы-Дубішча-Балбечы да месца падыходжаньня Стрыжэўскай дачы да берагу рэчкі З. Дзьвіна. Далей—па беразе р. З. Дзьвіны да землякарыстаньня в. Царкавішча, а адсюль па мяжы дзяржлесфонду і землякарыстаньнем вёсак Царкавішча-Борохобкі-Залужжа-Пяцігорск-Дукоўшчына-Забор'е — да пачатковага пункту.

**Нам. Наркамземляробства МАСЮКО..**
**Нам. Загад. Лясного Кіраўніцтва ПЯТРУШЫН.**

---

## Тлумачэньне НКЮ аб зьбегшых і бадзячых сабаках.

Публікаваньню ў газэтах аб'яў, паказаных у вашай адносіне, нельга прыдаваць ніякай юрыдычнай сілы. Паводле арт. 60 Грамадзянскага Кодэксу, уласьнік маемасьці (у даным выпадку сабакі) мае права вытрабаваць гэту маемасьць ад добрасумленнага нават карыстальніка, калі яна згублена альбо ўкрадзена. Таму, калі сабака прапаў (згублен) ці зьбег і потым уласьнік выявіў яго ў іншай асобы, ён на працягу трох год (даўнасны тэрмін) мае права яго вытрабаваць незалежна ад тэрміну, паказанага ў газэтных аб'явах. За выдаткі, патрачаныя на ўтрыманьне сабакі, уласьнік павінен адказваць паводле арт. 59 ГК.

Калі-ж будзе знойдзена бадзячая сабака—без гаспадару, намордніка, прывязі і інш. (гл. правілы Наркамзему ў Бюл. СНК 26 г. № 8, арт. 17 і 1927 г. № 17 арт. 33), дык такую сабаку можна ці здаць у адпаведную ватэрынарна-санітарную ўстанову для зьнішчэньня, або трымаць у сябе да выяўленьня гаспадара, ад якога сабака зьбег.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі **Гінцбург.**
Кансультант **Рудзінская.**

---

## Пастанова.

1930 г. студзеня 4 дню Народны Камісарыят Земляробства пастанаўляе:

Арганізаваць паляўнічы заказьнік у ўрочышчах: „Лазоўка", „Міхалаўская Пушча" і „Саковішча" Смалянецкай лясной дачы, Чашніцкага лясьніцтва, Віцебскай акругі, плошчай 1050 *га*, на тэрмін 5 год, пачынаючы з 1-га студзеня 1930 году па 1-ае студзеня 1934 г. у наступных межах: пачатковы пункт—стык меж дзяржлесфонду Смалянецкай дачы—землякарыстаньня вёсак Аксянцы-Смалянцы; адгэтуль мяжа заказьніка ўстанаўліваецца па мяжы дзяржлесфонду землякарыстаньням вёскі: Смалянцы, калектыва Міхалова, в. Вітковічы, Дубінцы, Марынцы, Язба, ур. Падзалазі, Аксенцкай дачы (дзяржлесфонд)—в. Аксенцы да пачатковага пункту.

Возера Дубянец цалкам уключаецца ў межы заказьніка.

Наркамземляробства **Масюкоў.**
Нам. загадчыка Лясного Кіраўніцтва **Пятрушын.**
Інспэктар Паляўнічай Гаспадаркі **Дзярыба**

---

*Адказны рэдактар:* **Міх. Шмідт.**

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ
НА
# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

**Часопіс калектывізацыі, вытворчага сел.-гасп. каапэраваньня і агранамізацыі насельніцтва.**

**Выданьне Наркамзему і Белкалгассаюзу БССР.**

Часопіс **„Шляхі Калектывізацыі“** ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме адбіваць шляхі калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР, як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня — камуны, арцелі, так і простыя рознага віду таварыствы.

Задачы часопісу **„Шляхі Калектывізацыі“**—згуртаваць увагу ўсяго бядняцка - серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна - тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўнікам калгассыстэмы, зямельным, агранамічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу падвышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязан з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў, з Інстытутам Сялян-Дасьледчыкаў, перадавым актывам калгасаў і вёскі.

## ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | |
|---|---|
| На год . . . . | 2 р. 20 к. |
| „ 6 м-цаў . . | 1 р. 10 к. |
| „ 3 м-ца . . . . | 60 к. |
| Паасобны нумар . | 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15% пры завербаваньні 6 гадавых або 12 паўгадавых падпісчыкаў.

Замест грашовага адлічэньня—зборшчык, які сабярэ 6 гадавых ці 12 паўгадавых падпісак, можа быць залічаны гадавым падпісчыкам часопісу.

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:

на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў Рэдакцыі.

**Адрас рэдакцыі:**
**Менск, Савецкая 71, НКЗБ.**

Ёсьць камплекты „Плуга“ за ранейшыя гады.
Цана камплекта 1 р. 10 к.

---

## ВІДКРИТО ПЕРЕДПЛАТУ
на щомісячний ілюстрований журнал
# УКРАЇНСЬКИЙ МИСЛИВЕЦЬ ТА РИБАЛКА
ОРГАН ВСЕУКРАЇНСЬКОЇ СПІЛКИ МИСЛИВЦІВ ТА РИБАЛОК.

1930 р. VIII рік видання

## ЖУРНАЛ СТАВИТЬ СОБІ ЗАВДАННЯ:

1. Ідейне керівництво широкими мисливськими та рибальськими масами України і виховання їх у дусі свідомої участи в соціялістичному будівництві країни та перебудови мисливського господарства на соціялістичних засадах.
2. Захищати інтереси мисливського і рибальского господарства на Україні.
3. Бути провідником знань з мисливзнавства і природознавства не лише серед мисливців і рибалок, але й серед населення та взагалі сприяти підносити культурний рівень широких кіл мисливців та рибалок України.
4. Висвітлювати на сторінках журналу побут українського мисливця і рибалки.
5. Тримати тісний зв'язок з наукою, сприяючи розвиткові практичних і навуково-прикладних дисциплін вивчення мисливського господарства і природи.

## ЖУРНАЛ МАЕ ТАКІ ВІДДІЛИ:

Спілкове будівництво, Із життя природи, Мисливське господарство, Економіка полювання, Кролівництво, Хутро, Рибальство і Рибознавство, Белетристика, Стрілецька справа, Псярництво, Бібліографія.

1930 року буде видано 12 примірників журнала книжного формату, розміром 4 друкованих аркуші кожний, в художній обкладинці. У кожному нумері вміщатимуть художні малюнкі й фотографії

**У журналі беруть участь кращі фахівці мисливзнавства, рибознавства, рибальства і природознавства.**

**Умовы передплати:**

| | I абон. (без додат.) | II абон. (з додатк.) з пересиланням |
|---|---|---|
| На 1 рік | 4 крб — коп. | 6 крб |
| На 1/2 року | 2 „ 50 „ | 3 „ |
| На 3 місяці | 1 „ 50 „ | |
| За кордон | 11 „ 00 „ | |

ЦІНА ОКРЕМОГО НУМЕРА 50 КОП.

Всі передплатникі другого абонем. одержать: 1) Збірник художніх оповідань „ЗВЕРИНОЙ ТРОПОЙ“ у роздрібному продажі коштує 2 крб. 2) „ЗАЯЦ РУСАК, БЕЛЯК и ДИКИЙ КРОЛИК“ Ф. Ф. Шилингера.
Припускається розстрочка, підписуючися 50% і решта 50% до 1 травня 1930 р.

**АДРЕСА РЕДАКЦІЇ: Харків, вуліця Свердлова, № 57, ВУСМР. Телефон 25-84.**

Друкарня „БДВ“. Заказ № 1245. У ліку 15.000 экз. Галоўлітбел № 1237.